№ 23 (956) 22 чэрвеня 2016

www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыдня, у серады



## Доктар Ірына Абельская: Я хачу, каб малодшы сын выбраў цікавую прафесію, прыносіў карысць сабе і іншым

Старонка 4.

## Падпіска на новы этап

З ліпеня «Наша Ніва» будзе выходзіць у фармаце штомесячніка. Там будзе добрая аналітыка, рэпартажы, гутаркі, гісторыя і літаратура.

# БЛА-БЛА-БЛА

Новы «Усебеларускі народны сход» праводзіцца ва ўмовах, калі нават па звестках афіцыйнай статыстыкі не выкананы ніводны планавы паказчык, вызначаны папярэднім. Колькі каштуе народу «народны сход»? **Старонка 3.**

## Тры пытанні без адказу

Хто з вас выбіраў дэлегатаў на гэты сход?

Чаму ў Фінляндыі не праводзяць «усефінскі народны сход», а ў Славаччыне — «усеславацкі народны сход»?

Што па-беларуску будзе на гэтым «усебеларускім» сходзе?

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН



- **«Чорны чалавек на зялёнай канапе».** Новая аповесць Уладзіміра Арлова
- **Дзённік Горвата**
- Новы праект **Сяргея Гудзіліна**
- **10 тэхналогій**, якія могуць зрабіць рэвалюцыю ў ваеннай справе...

Ды шмат усяго іншага ў першым нумары «НН»-месячніка ў ліпені.

# Звольнены намеснік міністра ЖКГ Анатоль Шагун

Яго характарызуюць як вельмі **сумленнага работніка**.

На мінулым тыдні намесніка міністра ЖКГ Анатоля Шагуна знялі з пасады «ў сувязі з учыненнем праступка, несумяшчальнага са знаходжаннем на дзяржаўнай службе».

Спадар Шагун меў вельмі незвычайную для дзяржаўнага службоўца біяграфію. Аказваецца, пры канцы 1990-х ён нейкі час займаў пасаду сакратара ўправы БНФ.

«Гэта было дзесьці ў 1997—1999 гадах, увесь час быў у сядзібе на Варвашэні, — узгадвае франтавец Аляксей Кавалец. — Калі адбыўся раскол у БНФ, то ён адышоў ад справаў. Шагун сімпатызаваў Пазняку».



Пасля расколу Шагун сімпатызаваў Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ.

«Спакойны, нармальны хлопец. Калі езджу ў машыне, то слухаю радыё, дык неаднаразова чуў інтэрв'ю Анатоля Шагуна — даваў іх заўсёды на беларускай мове», — дзеліцца сваімі думкамі спадар Кавалец.

Памятае Шагуна па БНФ і перакладчык, педагог Лявон Баршчэўскі. «Гэта дысцыплінаваны і адказны чалавек — не дзіва, што ён выбіўся ў намеснікі міністра, бо надзвычай добры выканаўца. Ён стараўся не сваціцца, але размаўляў на мове, дапамагаў, чым мог», — кажа Баршчэўскі.

Шагун быў вернікам беларускамоўнай кальвінісцкай царквы.

Нагадаем, 4 мая Следчы камітэт паведаміў аб завяршэнні расследавання крымінальнай справы ў дачыненні да шасці службовых асоб сістэмы ЖКГ, у тым ліку і намесніка міністра ведамства — яго прозвішча не згадвалася. Намесніку міністра было выстаўленае абвінавачванне ў злоўжыванні ўладай і службовымі паўнамоцтвамі.

Адно з прадпрыемстваў сістэмы міністэрства ЖКГ не выканала дзяржаўную навукова-тэхнічную праграму ў часткі заданняў па распрацоўцы і асваенні вытворчасці тэхналагічнага абсталявання, што пацягнула за сабой неабгрунтаваны расход сродкаў рэспубліканскага бюджэту на суму 861 мільён рублёў.

**Зміцер Панкавец**

# Анжаліка Агурбаш прадала апартаменты ў Драздах за $435 тысяч

Партал Realt.by апублікаваў рэйтынг самых дарагіх кватэр, якія былі прададзеныя ў Мінску ад пачатку года.

На другім месцы апынулася ўгода Святланы Алексіевіч. Нагадаем, Нобелеўская лаўрэатка набыла за $325 тысяч апартаменты ў «доме Чыжа».

Хто ж стаў лідарам? Двухпавярховая кватэра на вуліцы Піянерскай у Драздах, прададзеная за $435 тысяч. Плошча элітнага жылля — 212,3 м2. Такім чынам, квадратны метр у ім каштаваў $2050, угода была зарэгістраваная ў лютым.

Як стала вядома «Нашай Ніве», новым гаспадаром стаў банкір з Казахстана. А вось прадавала кватэру спявачка Анжаліка Агурбаш.

**Ягор Марціновіч**



## Цэны на нерухомасць адскочылі ўверх

Квадратны метр у Мінску каштуе $1090.

У маі 2016 года кватэры ў Мінску падаражэлі ўпершыню ад жніўня 2015 года. Гаворка вядзецца пра рэальныя ўгоды, зарэгістраваныя ў Нацыянальным кадастравым агенцтве. Цана квадратнага метра вырасла з $1077 да $1090.

Колькасць ахвотных набыць кватэру ў Мінску гэтай вясной пабіла ўсе рэкорды. У параўнанні з мінулым годам за перыяд з сакавіка па май было заключана на 41% больш здзелак.

У залежнасці ад колькасці пакояў цэны былі наступнымі:

1-пакаёвыя кватэры: $1141 /м² (+ 0,7% за месяц) — $39 000;

2-пакаёвыя кватэры: $1071 / м² (+1,5%) — $51 500;

3-пакаёвыя кватэры: $1039 / м² (+2,1%) — $70 000;

4-пакаёвыя кватэры: $990 / м² (+1,4%) — $71 000.

**ЯМ**

## Вядучы АНТ Бандарэнка: Улады Беларусі залагоджваюць паўзучы фашызм

Чарнасоценскія сайты абурыліся паведамленнем «Нашай Нівы» пра збор подпісаў супраць устаноўкі помніка Аляксандру Неўскаму ў Віцебску.

Адным з прадстаўнікоў пакрыўджанай «праваслаўнай грамадскасці» аказаўся вядучы тэлеканала АНТ, лаўрэат прэміі «За духоўнае адраджэнне» Вячаслаў Бандарэнка.

У сваім каментары ён назваў фашыстамі тых, хто выступае супраць устаноўкі помніка Неўскаму ў Віцебску.

«З вялікім сумам даводзіцца назіраць, як у пэўных колах Беларусі набірае моц ціхі, паўзучы фашызм, — прыводзіць словы Бандарэнкі сайт. — Потым ён робіцца гучным, нахабным, потым перад ім пачынаюць пасаваць, спрабуюць залагодзіць, робяць выгляд, што яго няма, ну а потым — чарговая Мюнхенская дамова, чарговая Прага і Польшча».

Вайна культурных уплываў, якая цяпер ідзе ў Беларусі — гэта, паводле Бандарэнкі, першы бой з такім фашызмам.

«Сцерпім на гэты раз — сцерпім ва ўсе наступныя», — піша вядучы АНТ пра збор подпісаў супраць помніка Неўскаму і прыгадвае гісторыю, калі з бюста Пушкіну прыбралі шавіністычны верш «Клеветникам России».



«Тады ўлады здалі назад, «залагодзілі» — прыбралі «не тую» цытату», — аперуе Бандарэнка тэрмінам, якім называюць палітыку саюзнікаў у дачыненні да Гітлера.

З помнікам Неўскаму ўлады, мяркую, таксама займаюцца залагоджваннем.

«Не ў баявым строі, не на кані. У мірным выглядзе, з сям'ёй... Але не. І гэта не тое. У якім заўгодна выглядзе — не тое. Проста таму што не Альгерд, не Кейстут, не Міндоўг, не Вітаўт. Вось гэтых трэба і з сям'ёй, і на кані, і пад канём...», — працягвае вядучы пра Неўскага, а разважае далей пра фашыстаў.

«Як яны прагнуць дзейнічаць у адкрытую! Проста скідаць у Свіслач, Дзвіну і іншыя рэкі ўсё, што не ўпісваецца ў іх карціну свету. Але пакуль яны яшчэ засцерагаюцца, збіраюць сілы. Проста ладзяць істэрыкі, калі бачаць у кіроўцы аўтобуса расійскі сцяжок. І бягуць у міліцыю з лямантам пра тое, што гэта крыўдзіць іхнія пачуцці. Міліцыя цярпліва выцірае слёзкі істэрыкам і просіць кіроўцу зняць сцяжок. Па заявядзёнцы, той літуе нервы істэрыка (ці наўпрост не хоча звязвацца з дурнем) і прыбірае. Хаця чаму, уласна? У нас свабодная краіна, які сцяжок захачу, такі і павешу. А не падабаецца табе — дык выходзь з майго аўтобуса і шпацыруй пешшу».

Мы датэлефанаваліся да Бандарэнкі і папрасілі патлумачыць, каго і чаму ён называе фашыстамі.

«У маім разуменні фашызм — гэта нецярпімасць да ўсяго, што выглядае не так, як ты лічыш патрэбным, каб яно выглядала», — патлумачыў журналіст АНТ.

Паводле яго, такія нецярпімыя людзі вельмі небяспечныя, бо «спачатку яны дзейнічаюць мінімальнымі сродкамі, а потым бяруцца за зброю».

Мы перапыталі ў лаўрэата прэміі «За духоўнае адраджэнне», ці з'яўляюцца нецярпімымі чарнасоценцы, якія не саромеюцца ў выказваннях у дачыненні да беларускіх патрыётаў.

Бандарэнка прызнаў, што так.

«Так, гэта таксама праявы нецярпімасці, мне гэты погляд абсалютна не блізкі», — такую ацэнку Бандарэнка даў словам іншых прадстаўнікоў «праваслаўнай грамадскасці».

Варта таксама сказаць, што Бандарэнка — аўтар такіх публіцыстычных твораў, як «Заходні шчыт Расійскай імперыі», «100 вялікіх рускіх эмігрантаў», «100 вялікіх подзвігаў Расіі», «100 вялікіх расійскіх акцёраў» ды інш.

Нядаўна ён браў удзел у прапагандысцкім шоу Салаўёва на расійскім ТБ, дзе назваў украінцаў нацыстамі, а баевікоў самаабвешчаных «рэспублік» — нашчадкамі савецкіх афіцэраў, якія «адстойвалі супольную радзіму».

**АЯ**

### Сціcла

**Прэс-службу Лукашэнкі зноў узначаліў Сяргей Пелюшкевіч**

Ён ужо працаваў на гэтай пасадзе ў 2013—2014 гадах. Пасля працаваў у «Савецкай Беларусіі» і на Першым канале радыё. Трэба адрозніваць пасаду кіраўніка прэс-службы ад пасада прэс-сакратара Аляксандра Лукашэнкі, якую займае Наталля Эйсмант.

**Жыхары Мінска — самыя падцягнутыя**

Паводле падлікаў Белстата, 25,8% беларусаў маюць лішнюю вагу (адносіны масы цела да квадрату яго росту ў метрах перавышаюць 30 кг/м2). Ёсць розніца паміж жанчынамі і мужчынамі. Доля жанчын з лішняй вагой складае 30,4%, а мужчын — 19%. Найбольшая колькасць беларусаў з лішняй вагой на Міншчыне (29,8%) і Віцебшчыне (28%). Найменшая колькасць у Мінску (22,7%) і на Гомельшчыне (25,5%).

**Новы цягнік у Вільню**

Ён будзе курсіраваць паміж сталіцамі Беларусі і Літвы з 14 ліпеня ўдзень чатыры разы на тыдзень па панядзелках, аўторках, серадах і чацвяргах. Цягнік будзе выязджаць з Мінска ў 14:03 і прыбываць у Вільню ў 17:00. У адваротным кірунку выезд запланаваны на 12:30, прыезд — на 15:27.

**БЮ**

### Апытанне на nn.by

**Ці сочыце вы за сваёй вагой?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 633 | 49% |
| Не | 228 | 18% |
| Стараюся | 358 | 28% |
| Няма калі | 62 | 5% |

Прагаласавала 1219 карыстальнікаў

### Самае чытанае на nn.by за 15 — 21 чэрвеня

1 Расійскія «ультрас» збіваюць брытанскага фаната ЖОРСТКАЕ ВІДЭА

2 Навукоўцы назвалі ўладальніцу ідэальнай жаночай фігуры ФОТА

3 Хлопец, які ўпаў з даху на Кастрычніцкай плошчы — паэт Ігар Канановіч. Самагубства?

4 «Дэмакратыю ў Беларусі можа ўвесці толькі сам Лукашэнка, любы іншы варыянт выкліча ўмяшанне Расіі»

5 «Sorry, man»: расійскія фанаты проста на вуліцы б'юць еўрапейца і саркастычна выбачаюцца ВІДЭА

6 Ён сказаў: «Я памру ў гурбе снегу». Беларускі журналіст шукае 19-гадовага сына

7 Ivan не ведае, хто такая Святлана Алексіевіч

8 Лукашэнка ў Гомелі: дворнікі з рацыямі, прадаўцы квасу ў вышыванках

9 Вядучы АНТ Бандарэнка: Улады Беларусі залагоджваюць паўзучы фашызм

10 Унук выклаў скрыншот пошукавага запыту сваёй бабулі ў Google, які стаў хітом у інтэрнэце ВЯСЁЛАЯ КАРЦІНКА

# Жонка «Джона Сільвера»: Эдуард рабіў важную і патрэбную справу

Ад студзеня ў зняволенні знаходзіцца аўтар патрыятычнага сайта 1863x.com Эдуард Пальчыс, больш вядомы сярод інтэрнэт-карыстальнікаў як «Джон Сільвер». Эдуарда затрымалі ў Расіі, але ад чэрвеня яго перавялі ў Беларусь, дзе яго чакае судовы працэс.

Вікторыя Пальчыс, жонка Эдуарда, упершыню пагутарыла з журналістамі пра справу мужа.



Эдуард Пальчыс і ягоная жонка Вікторыя.

**Вікторыя Пальчыс:** Я разумею, што журналістам цікавыя канкрэтныя факты яго крымінальнай справы — што адбывалася з Эдуардам пасля 5 мая 2015 года, калі ён быў арыштаваны. Але я знаходжуся пад падпіскай аб неразгалошванні, таму шмат чаго не магу гаварыць, каб не трапіць пад крымінальную адказнасць. Па-другое, я не валодаю ўсёй паўнатой карціны, бо ніхто мне матэрыялы крымінальнай справы не паказваў. Я вельмі абмежаваная ў інфармацыі, таму магу казаць толькі свае меркаванні.

**«НН»: Раскажыце трошку пра сябе і Эдуарда.**

**ВП:** Мы з Эдуардам з аднаго горада — з Ліды. Мы там выраслі, але не былі знаёмыя ў Лідзе, хаця шмат дзе перасякаліся. Мы пазнаёміліся ўжо ў Мінску, калі абое вучыліся ва ўніверсітэце. Мы пачалі сустракацца, ён стаў для мяне блізкім чалавекам, я — для яго.

Эдуард паступіў на гістарычны факультэт БДУ як алімпіяднік, ён не здаваў іспытаў. На пятым курсе, калі яму заставалася толькі здаць дзяржіспыты, ён вырашыў гэтага не рабіць, каб не праходзіць праз прымусовае размеркаванне, бо трапіць на добрую працу гісторыку — шанец вельмі маленькі.

Эдуард — вельмі добры гісторык. Ён любіць гісторыю, разумее яе. Ён разумее, як адбываюцца гістарычныя працэсы. Яму была цікавая сучасная гісторыя, ён шмат чытаў навін, заўсёды быў у курсе падзей у Беларусі і за мяжой. Цікавасць да ўсяго, што адбываецца навокал, — яго неад'емная частка.

**«НН»: Чым займаўся Эдуард пасля таго, як кінуў універсітэт?**

**ВП:** Адзін час ён у якасці рэпетытара па гісторыі рыхтаваў школьнікаў да паступлення. Потым працаваў спецыялістам па SMM у адной кампаніі.

**«НН»: А дзе вучыліся і працавалі вы?**

**ВП:** Падчас навучання ў школе я ўдзельнічала ў рэспубліканскіх алімпіядах па іспанскай мове, маю такія-сякія лінгвістычныя здольнасці. Потым паступіла на філалагічны факультэт БДУ, на кітайскую філалогію. Лічыла, што кітайская філалогія — гэта перспектыўны напрамак.

**«НН»: Наколькі рамантычны Эдуард быў у адносінах?**

**ВП:** Эдзік вельмі ўважлівы, вельмі клапатлівы. Які падарунак зрабіць, куды запрасіць на спатканне — ён заўсёды адгадваў так, каб гэта сапраўды ўразіла. Зразумела, дарыў мне кветкі, але ён большы майстар нестандартных падарункаў, такіх, якіх нават не чакаеш. Ён ніколі нічога не робіць «для галачкі».

**«НН»: Вы цяпер жывеце ў Беларусі?**

**ВП:** Так. У пачатку кастрычніка 2015 года мы з'ехалі ва Украіну і ў канцы студзеня — я вярнулася.

**«НН»: Вы ад пачатку ведалі, што «Джон Сільвер» — гэта Эдуард Пальчыс, што ён вядзе сайт 1863x.com?**

**ВП:** Так, адразу. Я адзіная ведала, хто такі «Джон Сільвер». Сайт 1863x.com з'явіўся ў 2014 годзе, але патрэбу запусціць падобны праект Эдуард адчуваў даўно. Дарэчы першапачаткова праект павінен быў мець іншую назву. Якую — не скажу, бо назва 1863x.com нашмат больш удалая.

Я не адгаворвала яго весці сайт і не памяняла свайго стаўлення і сёння. Калі б нават мы вярнуліся ў 2014 год, калі ён пачынаў ствараць свой праект, і я ведала, што ўсё так скончыцца, то ўсё роўна не адгаворвала б яго гэтага рабіць. Я падтрымліваю погляды мужа і перакананая, што ён рабіў вельмі важную і патрэбную справу.

Ёсць такі выраз: «Рабі што павінен, і няхай будзе што будзе». Мне здаецца, што сайт якраз пачынаўся з такога пасылу.

**«НН»: А чаму ён вёў сайт ананімна?**

**ВП:** Думаю, каб не прыцягваць увагі да сваёй асобы. Эдуард заўсёды аглядваўся на тое, што ў яго ёсць сям'я, родныя, я. Усё ж большую частку часу ён прысвячаў спачатку вучобе, пасля — зарабляннню грошай. Да апошняга часу ён не хацеў раскрывацца, каб СМІ стала вядомае яго імя. Гэта нават не з пытанняў бяспекі, бо ён жа не збіраўся весці нейкую злачынную дзейнасць.

**«НН»: Калі ў Эдуарда з'явіліся першыя праблемы?**

**ВП:** З'явіліся яны вельмі раптоўна 5 мая 2015 года. Ён тады пайшоў на нейкае сумоўе па рабоце, я яго праводзіла, пасля гэтага мы пабачыліся толькі праз месяц. Тады супраць яго і была распачатая крымінальная справа.

**«НН»: Чаму ён спачатку агучыў версію, што хаваўся ад спецслужб, а не знаходзіўся ў турме і бальніцы?**

**ВП:** Як мне здаецца, ён спачатку думаў, што гэта нейкая памылка. Ніякага экстрэмізму, распальвання міжнацыянальнай варожнечы з яго боку не было. Дома ў нас не знайшлі ніякай зброі, нічога супрацьзаконнага. Ён спадзяваўся, што гэтая памылка вырашыцца, Следчы камітэт за ўсім разбярэцца і справа будзе закрытая. Калі ж была распачатая другая крымінальная справа за распаўсюд парнаграфіі, то стала відавочна, што Эдуарда проста хочуць пасадзіць.

**«НН»: Што гэта за справа з парнаграфіяй?**

**ВП:** Эдуарду скінулі карцінкі з абразлівым кантэкстам у дачыненні да беларусаў, нацыянальнай сімволікі. Ён абурыўся. Як патрыёт, ён не мог гэта праглынуць, прапусціць. Напісаў саркастычны артыкул, у якім выкрываў тую абразлівую «творчасць», а ў якасці прыкладу нядобразычлівага стаўлення да беларусаў скарыстаў гэтыя карцінкі.

**«НН»: А як на яго выйшлі спецслужбы?**

**ВП:** Ён сам дакладна не ведаў, аднак лічыў, што даставаў і ўстаўляў сім-карты ў тэлефоны ў непатрэбных месцах.

**«НН»: Калі вы вырашылі з'ехаць з краіны?**

**ВП:** 12 верасня 2015 года мы пабраліся шлюбам. Мы вырашылі на нейкі час з'ехаць ва Украіну, каб пабыць разам. Потым Эдуард прыняў рашэнне вярнуцца ў Беларусь. Вярнуцца тым жа шляхам, якім прыехаў ва Украіну, то бок праз Расію. У Расіі яго і затрымалі.

**«НН»: Была версія, што ён ехаў у Расію па нейкую інфармацыю.**

**ВП:** Я пра гэта нічога не ведаю. Ён паспеў напісаць мне sms, што дакументы правяраюць у Бранску. Здаецца, гэта была лінейная паліцыя. Потым мы яго знайшлі ў СІЗА. Эдуард ведаў, што яго затрымаюць у Беларусі, ён ехаў праз Расію, бо хацеў яшчэ паспець убачыць бацькоў, а пасля гэтага пайсці здацца следству. Ён не разлічваў на тое, што яго затрымаюць у Расіі.

**«НН»: Перажывалі, што яго могуць пакінуць у Расіі?**

**ВП:** Канечне. Тамтэйшая адвакатка адразу сказала, што экстрадыцыя ў Беларусь зойме да паўгода, яна яшчэ тады нават справу не бачыла.

**«НН»: Чаму не хацелі далей заставацца ва Украіне?**

**ВП:** Калі мы пажылі троху ва Украіне, то зразумелі, што ў Беларусь трэба вяртацца. Хоць краіна і суседняя, хоць і сяброўская, але жыць за мяжой — гэта не тое. Трэба было вырашаць праблемы, якія ў нас былі дома.

**«НН»: Вы казалі, што можаце выказаць сваю версію, чаму ўсё гэта адбываецца.**

**ВП:** Чалавек быў занадта непадкантрольны. Ён гуляў не па правілах спецслужб, нікому не падпарадкоўваўся, таму яго вырашылі так жорстка прыхлопнуць. Ён крытыкаваў усіх, у тым ліку і беларускіх чыноўнікаў, і апазіцыю, але асабліва расійскую прапаганду.

**«НН»: Вы не бачыліся з Эдуардам пасля затрымання?**

**ВП:** Не, і мяне гэта вельмі засмучае. Пабачыцца да суда, думаю, практычна немагчыма.

**«НН»: Што ён піша ў лістах?**

**ВП:** Цяжка сказаць, наколькі добра нашы лісты даходзяць да Эдзіка. 1 чэрвеня ён ужо быў на Валадарку, мы пра гэта даведаліся 6 чэрвеня. Зразумела, адразу напісалі. 10 чэрвеня яго перавялі ў Жодзіна, таму лісты, што пісалі на Валадарку, усё яшчэ не дайшлі.

Адзін ліст ад Эдуарда прыйшоў бацькам, адзін мне, адзін брату. Ён піша пра рэчы асабістыя. У нас была стабільная перапіска, калі Эдуард сядзеў у Бранску. Нас найперш хвалявала, ці сыты ён, ці не прымяняюцца да яго спецсродкі. У Бранску ў турме ён глядзеў расійскія тэлеканалы. Кажа, што пра Беларусь там расказваюць ці нейтральна, ці ў плане, што «Бацька — хітры». На ўмовы ён не скардзіцца, нібыта з ім усё больш-менш нармальна. Наколькі нармальна можа быць з чалавекам, які сядзіць у турме.

**«НН»: Што людзі могуць рабіць у падтрымку Эдуарда?**

**ВП:** Заўсёды добра працуе, калі людзі пішуць лісты. Бо чалавек ізаляваны і яму можа здавацца, што ён усімі забыты. Яму важна ведаць, што яго помняць. Прагноз па справе нічога даць не можа. Мы з боку сям'і хочам аднаго: каб ён як мага хутчэй пайшоў дамоў.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Напісаць Эдуарду Пальчысу**

можна на адрас: 222160, Мінская вобласць, г. Жодзіна, вул. Савецкая, 22А, турма №8. Пальчысу Эдуарду Аляксандравічу.

# Колькі каштуе народу «народны сход»?

У Мінску збіраюцца 2500 дэлегатаў «Усебеларускага народнага сходу» – мерапрыемства, якое нагадвае старэйшым людзям з'езды КПСС.

Усіх дэлегатаў з рэгіёнаў размяшчаюць на двое сутак у найлепшых гатэлях Мінска. Вы спыняліся там калісьці? Калі так, то ведаеце цэны.

Нават калі лічыць, што пражыванне аднаго чалавека каштуе мільён за дзень, то пражыванне на час сходу 2100 рэгіянальных дэлегатаў будзе каштаваць мільярды рублёў.

Да гэтага дадайце расходы на харчаванне. Акрамя таго, кожны дэлегат атрымае прэзент — так званы «партфель дэлегата» з падарункамі.

Па традыцыі ніводнае мерапрыемства такога маштабу не абыходзіцца без культурнай праграмы. Будзе яна і сёлета. Арганізуе канцэртную праграму канал «АНТ». Еўрарадыё ўдалося даведацца, за якія грошы. Так што тут суму ведаем дакладную. За ўрачыстую вячэрыну «Наш шлях» у межах культурнай праграмы V Усебеларускага народнага сходу» дзяржава заплаціла 3 мільярды 662 мільёны 824 тысячы рублёў.

А яшчэ ж трэба ўлічваць праезд у сталіцу, кошт аховы...

Ёсць і адрозненне ад часоў СССР. Правядзенне з'ездаў КПСС фармальна фінансаваліся з грошай партыі, а не з дзяржаўных.

**Сяргей Гезгала**

# Доктар Ірына Абельская: Я хачу, каб малодшы сын выбраў цікавую прафесію, прыносіў карысць сабе і іншым

Кіраўнік Лечкамісіі — клінікі, у якой абслугоўваюцца першыя асобы краіны, — Ірына Абельская ў вялікім інтэрв'ю распавяла tut.by пра тое, чым адрозніваюцца vip-пацыенты, хто можа прайсці абследаванне ў Лечкамісіі, і пра тое, што не кажуць у яе прысутнасці. Закранутыя ў інтэрв'ю былі і пытанні сям'і.




**— Вы працуеце часам як спецыяліст, а не як галоўны доктар?**

— Так, рэгулярна.

**— Дзеля практыкі?**

— Па любові *(смяецца)*. Гэта раней галоўны ўрач быў гаспадарнікам. Сёння многія мае калегі, якія кіруюць сур'ёзнымі ўстановамі, працуюць як практыкуючыя дактары, ходзяць у аперацыйныя, абследуюць пацыентаў.

Я, напрыклад, ведаю ўсіх сваіх пацыентаў, рэгулярна праводжу абыходы ў аддзяленнях, ведаю, хто ў нас ляжыць і з якімі праблемамі.

**— Спытаю яшчэ пра «вяртушкі». Гэты тэлефон з гербам і без кнопак на вашым стале — для сувязі з міністрам ці з прэзідэнтам?**

— З прэзідэнтам.

**— Вы можаце падняць слухаўку, і ён адкажа?**

— Я не магу. Толькі прэзідэнт можа патэлефанаваць.

**— Вы з дактарскай дынастыі — ваша мама Людміла Пастаялка была міністрам аховы здароўя. Старэйшы сын таксама медык?**

— Я медык у трэцім пакаленні, мой старэйшы сын — у чацвёртым. Мая бабуля была фельчарам, і ўсе яе родныя былі ў той ці іншай ступені звязаныя з медыцынай. Мая мама і мая цётка — дактары. Мой родны брат — доктар, яго жонка — таксама. Мой старэйшы сын — афтальмолаг, працуе ў афтальмалагічным цэнтры.

**— Дактары — строгія бацькі?**

— Цяжка сказаць. Сёння, калі я бачу, як мае дзеці кантактуюць са мной, разумею, што я б так ніколі не магла размаўляць са сваімі бацькамі, нягледзячы на тое, што ў нас былі вельмі цёплыя, вельмі добрыя ўзаемадносіны. У мяне было выдатнае дзяцінства, мяне вельмі любілі. Але ўсё роўна я заўсёды вельмі паважліва ставілася да мамы і таты. У сучаснага пакалення павага да бацькоў засталася, але гэта нейкая іншая форма яе выказвання. Я ведаю шмат людзей свайго ўзросту, якія да бацькоў звярталіся на «вы». А сёння мае дзеці гавораць са мной як з сяброўкай. Але я іх тармажу: «Стоп, хлопцы, я вам не сяброўка».

**— Атрымліваецца, вы не строгая мама?**

— Строгая. Дзяцей трэба любіць, але ў кожнай сям'і ёсць агульначалавечыя прынцыпы, якімі трэба кіравацца ў выхаванні. І дзеці павінны разумець, што нельга іх парушаць. Любы чалавек, які з'яўляецца на свет, хоча паспрабаваць розныя формы жыццядзейнасці, і вельмі важна правільна настроіць дзяцей на ўспрыманне гэтага свету.

Мая сям'я заўсёды была вельмі працавітай, мы шмат вучыліся, у нас не было бяздзейнага баўлення часу. І мне б вельмі хацелася, каб у маіх дзецях гэта было таксама. Усё роўна ў чым: спорце, вучобе. Я лічу, што правільны чалавек — гэта арганізаваны чалавек.

**— Вы б хацелі, каб і малодшы сын працягнуў вашу медыцынскую дынастыю?**

— Я не задумваюся пра гэта. Але я не думала пра гэта і ў выпадку са старэйшым сынам. Гэта быў яго выбар, і прыняў ён рашэнне звязаць сваё жыццё з медыцынай у апошнім класе Ліцэя БДУ.

А якую прафесію абярэ мой малодшы сын ... Я б проста хацела, каб ён атрымаў добрую адукацыю, выбраў цікавую прафесію, любіў сваю працу, атрымліваў ад яе задавальненне і прыносіў карысць і радасць іншым.

**— Цісную не будзеце?**

— Гэта складана. Цісную заўсёды складана.

**— Вы робіце ўражанне вельмі энергічнага і актыўнага чалавека. Як вам удаецца трымаць сябе ў форме?**

— Я не вельмі актыўны чалавек у плане спорту, не займаюся рэгулярна. Ды і ў мяне не вельмі шмат вольнага часу, каб хадзіць у нейкія залы тры-чатыры разы на тыдзень. Але я разумею, што фізічная актыўнасць патрэбна, праходжу ў дзень не менш за пяць кіламетраў.

**— Дзе?**

— Я ўстаю а палове на шостую, нават зімой. У мяне ёсць сабака, які мяне натхняе на прагулкі. Так што хаджу абавязкова. Люблю ровар, езджу, калі надвор'е дазваляе. Ну і, як любы чалавек, любая жанчына, я сябе дзесьці абмяжоўваю ў ежы.

**— Абмяжоўваеце моцна? Кажуць, што лепш за ўсё выглядаюць тыя, хто есць вельмі мала.**

— Я не мала ем, люблю паесці. Але я не люблю салодкае, мучное і бульбу. Напэўна, непатрыятычна, але вось так.

**— Цяжка быць кіраўніком такога ўзроўню? Усё ж такі галоўныя дактары ў нас у асноўным мужчыны, нават у радзільнях.**

— Напэўна, жанчыны ў добрым сэнсе слова больш ненармальныя кіраўнікі, больш увагі надаюць спагадзе, жаданню зразумець, у іх ёсць імкненне зрабіць калектыў сям'ёй. Але і выгараюць яны больш, не заўсёды прыемныя для мужчын-кіраўнікоў, бо эмацыйныя. Цяжка гэта ці лёгка? Складана сказаць. Нялёгка — гэта дакладна. Але ў нас добры калектыў. І, прапрацаваўшы столькі гадоў, я дакладна ведаю, на каго мне можна абаперціся, каму якія паўнамоцтвы дэлегаваць. Калі ўсё па паліцах раскладзена, працаваць вельмі прыемна.

**Ульяна Бабаед, Tut.by**

# Працягласць жыцця пацыентаў Лечкамісіі — 83 гады

Пра гэта заявіла галоўны доктар Лечкаміі (клінікі, дзе абслугоўваюцца галоўныя асобы краіны) Ірына Абельская ў інтэрв'ю tut.by.

— Па дадзеных за апошнія пяць гадоў, працягласць жыцця пацыентаў Лечкамісіі вагаецца ад 82,5 да 84 гадоў, — сказала Ірына Абельская. — Гэта не надуманыя, а абсалютна рэальныя лічбы. І гэта заслуга не толькі і не столькі тых, хто працуе сёння ў гэтай установе. Мы змаглі захаваць, умацаваць, вывесці на больш сучасны ўзровень тое, што было закладзена шмат дзесяцігоддзяў назад. Прынцып усеагульнай дыспансерызацыі, які быў калісьці абвешчаны, захаваны ў нас да гэтага часу. Пацыенты, якія тут назіраюцца на працягу дзесяцігоддзяў (а ў нас жа ёсць пацыенты, якія і 30, і 40 гадоў абслугоўваюцца), ведаюць і разумеюць, як гэта важна.

Працягласць жыцця — галоўны паказчык, але ёсць і шмат іншых. Цяпер некалькі зрушыўся пенсійны ўзрост, і людзей, якія будуць удзельнічаць даўжэй у жыцці грамадства, будзе больш, яны будуць старэць. Значыць, з імі павінна праводзіцца больш прафесійна адпаведная праца, каб яны маглі не зніжаць якасць жыцця. Паверце, гэта велізарная радасць і велізарнае задавальненне — мець зносіны з людзьмі сталага веку, якія да гэтага часу працуюць, захавалі абсалютна вострыя розум, памяць, жыццялюбства, энергію. Мы нават сваіх маладых лекараў водзім да такіх пацыентаў, як на экскурсію. Гэта вельмі вялікі стымул для любога чалавека.



# Удовы вайны

Іх засталося 784. **Піша Сяргей Ваганаў.**

22 чэрвеня 1941 года нападам нацысцкай Германіі на Савецкі Саюз пачалася крывавая бойка дзвюх таталітарных монстраў, якая скончылася для іх народаў безліччу ахвяр.

Сёлета — 75 гадоў...

Сёння ў Беларусі засталося ад той вайны 13,7 тысячы ветэранаў. У тым ліку, паведамляе Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, 9 тысяч інвалідаў і непасрэдных удзельнікаў.

Ёсць у тым падліку лічба, якая прыцягвае асаблівую ўвагу: 784 — «членаў сямей вайскоўцаў, што загінулі ў гады вайны». Чамусьці Міністэрства пазбегла казаць — удоваў...

У 1986, калі адбывалася гісторыя, якую я хачу распавесці, у Беларусі налічвалася 72 тысячы ўдоваў вайны.



**Скульптура Мікалая Кандрацьева легла ў аснову мемарыяла ў вёсцы Доры Валожынскага раёна, спаленай фашыстамі ў 1943-м.**

Хавалі ўдаву.

Месца ёй выпала высокае, на самай вяршыні голага, прадзьмутага снежаньскім ветрам узгорка, куды неўпрыкмет, спакваля ўспаўзалі новыя гарадскія могілкі. «Добрае месца, сухое...» — ціха, напаўголаса казалі людзі, намагаючыся аблегчыць журботны цяжар падзеі. «І від добры, паглядзіце, які від...»

Від быў на горад, у якім удава пражыла ўсё жыццё. Ён узнімаўся мураванымі гмахамі, святлеючы ў разрывах нізка бягучых воблакаў, трубамі, вежамі і кранамі ўзломваў спусцістую лінію далягляду. За лесам, што панік у чаканні снегу, за цярплівай аголенасцю ўстылых счарнелых палёў — ці той гэта быў горад, які пакідала яна ў ноч на 25 чэрвеня 1941 года, ратуючы сыноў і не ведаючы яшчэ, які жорсткі вырак вынесе ёй лёс? Ці вайна? А мо вайна, што сталася лёсам?

...Сціхлі размовы, цяснейшым сталася кола, глыбей пазасоўвалі ў рукавы змерзлыя рукі музыкі пахавальнага аркестра, абняўшы, быццам дзяцей, свае медныя трубы. І тады наперад выйшаў старэйшы сын удавы, наблізіўся да матулі і паклаў побач з ёю нешта, загорнутае ў белую прасціну. Прыкметна пастарэлы, ён стаяў, нізка схіліўшы галаву, затым узняў позірк і, наўпрост гледзячы людзям у вочы, глуха, але каб усе чулі, сказаў:

— Вы любілі матулю і павінны ведаць, што ў гэтым клуначку. У ім найвялікшае яе багацце — даваенны касцюм бацькі, зямля з ягонай магілы пад Курскам і лісты. Ён паспеў напісаць з фронту ўсяго два лісты. Але тут шмат лістоў. Гэта лісты матулі да бацькі. Мы не ведалі, — голас яго перарваўся, — яна ўтойвала ад нас... яна пісала іх усё жыццё...

І сын распавёў, як пасля смерці маці яны знайшлі ў яе пад падушкай цэлы жмут лістоў, як чыталі іх усю ноч, сабе і сваім дзецям, потым перапісвалі ад першага, ліпеня 42-га — «...не лічы, што я з’ехала з глузду, пішу табе, ведаючы, што цябе няма... але ў мяне ёсць твае лісты, у якіх ты просіш зберагчы нашых хлопчыкаў і выгадаваць іх сапраўднымі людзьмі... я павінна адказаць табе...» — да апошняга, у якім было ўсяго некалькі, з цяжкасцю напісаных словаў: «...любы мой, ненаглядны, я выканала свой доўг...»

З могілак разыходзіліся моўчкі.

...— Ну, і як вам гэта падабаецца?

Я азірнуўся, пазнаўшы ў чалавеку, які ішоў побач, прадстаўніка домакіраўніцтва, як ён адрэкамендаваўся, калі напярэдадні пахавання праціснуўся ў вузенькія дзверы і паставіў у вітальні вянок. Не зняўшы капелюша, ён уголас пацікавіўся, хто тут найбліжэйшы сваяк, і дастаў з кішэні нейкую скамечаную паперку: «Вось тут трэба распісацца ў атрыманні...» На яго цыкнулі, ён сцішыўся, таптаўся ў калідоры... Панеслі вянкі, ён рушыў да дзвярэй, але адтуль ішлі і ішлі людзі, увайсці ён не здолеў і, махнуўшы рукой, прымасціўся да хваста працэсіі, што павольна агінала на шляху да аўтобуса доўгі панэльны дом. На могілкі ён паехаў, як я разумеў, не жадаючы губляць з вачэй «атрымальніка», а мо і дзеля таго, каб трапіць, калі ўжо так адбылося, на памінкі — выпіць з марозу і закусіць.

....— Ну і як вам гэта падабаецца? Пісаць лісты на той свет! З глузду з’язджаюць гэтыя старыя. Вось і я мамусі кажу, у вёсцы яна жыве, кінеце, кажу, поркацца ў зямлі, перабірайцеся да мяне ў горад. Дык яна ведаеце што надумала? Куды ж, кажа, сынок, бацька наш вернецца, дзе ён шукаць нас будзе? Чакай, вернецца, калі ўжо больш за сорак гадоў як без вестачкі знік, папера нават маецца. Што ж, пытаюся, паперы не верыце? Не дурыце, кажу, мамуся, не парушайце этыкет жыцця. А яна глядзіць гэтак, усміхаецца: чаму ж, кажа, не веру? Веру, у паперы няма ж таго, што загінуў. Ведала б, дзе магілка, мо і супакоілася б. А й так здараецца, што і магілка ёсць, і прозвішча на помнічку, а сам жывы, унь што ў газетах пішуць — той знайшоўся, гэты знайшоўся... Ну, думаю, дурында старая, раней хаця б карову трымала, і то карысць была, пацана падкарміць. Давайце, кажу, мамуся, у горад, прапішу, кватэру новую атрымаем, на вас, кажу, ільгота, як на ўдаву, маецца. Якая такая льгота, пытаецца? Тлумачу, а яна, цемната, сваё: навошта мне тая льгота, няхай яна табе будзе, мне б толькі бацьку дачакацца альбо дазнацца што пра яго, спакайней паміраць было б. Памерці, кажу, заўжды паспееце, зрабіце напаследак добрую справу, мне ж, кажу, без вас, мамуся, тую льготу ніхто не дасць...

— Паслухайце, — перарваў я ягоны працяглы маналог, — вам не шкада сваю матулю?

— Шкада? — перапытаў ён. — А нашто шкадаваць, калі яна сама сябе не шкадуе, мучыцца дурасцю. Жыць, кажу, мамуся, трэба, жыць, як людзі жывуць. А яна: ці ж я не палюдску жыву, ці ж каму замінаю? Замінаць не замінаеце, кажу, але ж карысці, дапамогі ад вас аніякай. Унь іншыя, каму прызначана, усё дзецям — і машыны, і заказы, і дачы... Толькі й чуваць вакол: ветэраны, ветэраны... Ведаеце, колькі іх у нашым домакіраўніцтве? Трыццаць два. А клопатаў з імі!... Аб’яву на пад’ездах павесілі: прыходзьце для ўдакладнення дадзеных... Дык толькі адзін з’явіўся, расшумеўся, палкай размахаўся: якія, крычыць, табе дадзеныя ўдакладніць трэба? Што яшчэ жывы? Супакойцеся, кажу, не нервуйцеся, дадзеныя патрэбны, каб вам заказ да свята аформіць. Дык я табе тыя дадзеныя ўжо сто разоў даваў... Ну і што, што даваў? Удакладніць ніколі не пашкодзіць, каб справядліва ўсё было. Крычы, крычы, думаю, толькі сам я да цябе не пайду, таму што табе ўсё, а мне — нічога. І права такога — махаць палкай — табе ніхто не даваў, у мяне самога бацька з вайны не вярнуўся і матуля — удава самотная. А ты — жывы, і табе — усё... Вы, гляджу, чалавек адукаваны, — павярнуўся ён да мяне, — справядліва гэта, што мне анічога?

— Так-такі анічога, — паціснуў я плячыма, стаміўшыся ўжо ад ягоных блытаных разважанняў.

— Вось-вось, — пападтульваў ён губы, — і матуля туды ж: чаго, кажа, табе, сынок, не хапае? Абы, кажа, вайны не было б... Далася ім тая вайна... Жыць трэба...

Спадарожнік мой працягваў нешта мармытаць, але я ўжо не чуў яго. Перад вачыма ўзнікла гарбаватая, худая постаць цёткі Зосі, яе пасма сівых валасоў, што выбілася з-пад зношанай хусткі:

— Дзеткі ж вы мае даражэнькія, я б вас усіх ад вайны засланіла...

Вакол нікога не было, толькі я, стары Каладзінскі ды Мікалай Шэшка, старшыня мясцовага сельсавета. «Ат, цётка, — усклікнуў у сэрцах Каладзінскі, — якая табе вайна?! Не будзе болей вайны...» — «Ой, Валодзечка, страшна ажно падумаць, ой як страшна...» — і цётка Зося яшчэ мацней прыціснула да грудзей маленькія зморшчаныя кулачкі.

...Калі сысці з могілкавага ўзгорка ў горад і трымаць, не паварочваючы, шлях на захад, можна праз дзве ці тры гадзіны трапіць у невялічкую вёску Бармуты. У іншыя, не такія ўжо даўнія, часы шлях да яе быў нашмат даўжэйшы — старая, абсаджаная бярозамі шаша на Брэст, да якой прытуліліся і Бармуты, стрымлівала бясконцую плыню машын. Калі праклалі алімпійскую трасу, хуткаснае, дынамічнае, шпаркае жыццё рушыла ў абход старых дарог, міма Бармутаў. Як-ніяк дарога нумар 1, у еўрапейскім, так бы мовіць, маштабе. Толькі няма ў гэтым маштабе паказальніка на прасёлак, ад якога паразыходзіліся, паразляталіся па розных канцах свету бармуцкія мужыкі.

Прасёлак на Бармуты быў ледзь прыкметны сярод завеяных снягамі палёў. Ружавелі на марозным сонцы дымы над прыціхлай удалечыні вёсачкай, ружавеў прасёлак, нагадваючы бінт, чысты, асляпляльнай белі бінт, праз які выступае кроў з незагойных ранаў беларускай зямлі.

Пра тое, што ў Бармутах жывуць адны ўдовы, я даведаўся яшчэ ў Мінску, у Музеі вайны, на ягоным другім паверсе, дзе наведнікі запавольвалі крок ля скульптурнай кампазіцыі «Палеглых чакаюць вечна, або Удовы вайны». Не тое слова — кампазіцыя. Я размаўляў пазней з Мікалаем Кандрацьевым, скульптарам, які стварыў гэты твор. Курчыўся ад болю ў спіне — водгаласу атрыманай пад Будапештам раны, і выразаў, чатыры гады выразаў іх з неахопных векавых ліп, спілаваных падчас будаўніцтва новых магістраляў. Ён здолеў унушыць дрэву гэты боль, не толькі фізічны — глыбокі душэўны боль: 216 мужчын не далічылася пасля вайны яго вёска Высокая Грыва ў Кулундзінскім стэпе, пяці — па лініі бацькі, а па лініі матулі — не палічыць, тры слупкі прозвішчаў на стэле ля абеліска. Яму раілі змяніць назву: «Чаму чакаюць? Помняць. Так будзе больш зразумела». — «Чакаюць», — настойваў Кандрацьеў. Скончыўшы працу, ён адмовіўся ад ганарару Міністэрства культуры, папрасіў толькі паставіць кампазіцыю ў музеі, дзе са сцен глядзяць на ўдоў твары тых, каго яны чакаюць...

Гэту гісторыю Кандрацьеў пачуў выпадкова. Нібыта ёсць у Брэсцкай вобласці вёсачка, дзе жывуць адны ўдовы. Нібыта кожнае 9 мая яны выходзяць на прасёлак з хлебам-соллю на вышытых ручніках, чытаюць адна адной лісты з вайны, што паспелі атрымаць, углядаюцца ў далячынь... Кандрацьеў не стаў пераправяраць гэту гісторыю. І правільна зрабіў. Быццам успышка, прасвятліла яна яго душу, высвеціла ў ёй затоены боль. А я рушыў у Бармуты і...

...і цётка Зося яшчэ мацней прыціснула да грудзей маленькія зморшчаныя кулачкі:

— Васямнаццаць кулек у яго трапіла, васямнаццаць дзірачак налічыла... І галоўка, уся галоўка пабіта. І як хавала яго, усё тыя дзірачкі лічыла... Як заплюшчу вочы, чую: ідзе мой Алёшанька, снедаць просіць. Карнікі ж нават даснедаць яму не далі, пойдзем, кажуць, партызан. А ён мне: не хвалюйся, Зося, вярнуся — даснедаю...

Каладзінскі маўчаў, а Шэшка, кашлянуўшы, спытаў з нейкай вінаватасцю:

— Мо што трэба, Соф’я Мікалаеўна? Кажы, не саромейся...

— А што ж трэба, Ціханавіч? Усё е: і торф, і дровы... і Алёшка, сын, з Бярозы наязджае. Не ведае бацька, які нашчадак у яго вырас — і добры, і працавіты... Не забывае матулю. Усё добра, мае даражэнькія, усё добра...

Чаго ж вінаваціўся Мікалай? Па выпадковасці, якія здараюцца не так ужо рэдка, мы былі знаёмы з ім ад пачатку 70-х, калі, паматаўшыся па свеце, ён вярнуўся да матулі, у родныя Сігневічы, і рашуча, мо занадта рашуча, узяўся за асушэнне балот.

**Працяг на старонцы 7.**

# Паэт Ігар Кананові́ч упаў з даху на Кастрычніцкай плошчы Мінска. Самагубства?

Яму ішоў 33-ці год.

Дакладныя абставіны здарэння пакуль невядомыя. Цела Ігара Кананові́ча знайшлі на рагу праспекта Незалежнасці і вуліцы Энгельса. Гэта, каб вы сабе ўяўлялі, цэнтр цэнтра Мінска, Кастрычніцкая плошча. На вачах у людзей чалавек зваліўся з даху дома №23 па праспекце Незалежнасці.

Адразу збегся дзясятак спецназаўцаў, якія вечна дзяжураць тут. Цела ляжала даволі далёка ад будынка, і на ім была невялікая сумка цераз плячо. Дактары ўратаваць хлопца ўжо не змаглі.

— Прыкладна а 16:00 я пачуў гук, быццам штосьці пляснулася, — распавёў сайту By24.org відавочца здарэння. — Адразу ж убачыў хлопца, які ляжаў на тратуары.

«Жыві, калі варта жыць, і памры, калі варта памерці», — стаіць эпіграфам да старонкі Ігара Кананові́ча Укантакце.

Ноччу з 18 на 19 чэрвеня Кананові́ч пакінуў на сваёй старонцы «Укантакце» верш Сяргея Ясеніна «Не жалею, не зову, не плачу». Гэты допіс стаў апошнім.

«Следчыя правяраюць усе абставіны здарэння. Разглядаецца сярод іншых і версія пра самагубства. Прызначаны экспертызы, праведзены агляд месца здарэння, апытваюцца відавочцы. Аб выніках паведамім», — пракаментавалі здарэнне ў Следчым камітэце.



Для знаёмых Кананові́ча здарэнне стала нечаканасцю, шокам. Але па некаторых допісах можна зрабіць выснову, што Ігар перажываў цяжкія часы — не мог нармальнай работы знайсці. Ён пісаў, што запас грошай скончаецца. Да таго ж, праз тыдзень скончаўся тэрмін арэнды пакоя.

«Не жыццё, а марудная, здзеклівая трагедыя. Яно цяпер развальваецца па кавалках, як безнадзейна запушчаны хворы зуб. Амаль тры гады таму пачаў свой чарговы паход па чалавечы лёс, але сёння я адкінуты не тое што назад, а далёка за лінію таго старту. Нельга, канечне, не падзякаваць тутэйшай бяздарнай уладзе — яна і стварыла гэтае канцэнтравана ёлкае, атрутнае асяроддзе, у якім, падобна да майго, распаўзаюцца мільёны беларускіх лёсаў... Што рабіць, не ведаю; ад промахаў і тупікоў, ад махляроў і скнараў стаміўся. Хаця па-ранейшаму сцвярджаю, што «Беларусь — не самы горшы філіял Пекла на Зямлі», — за 3 дні да трагедыі пісаў Кананові́ч у літаратурнай суполцы «Элек-

**Ігар Кананові́ч**

нарадзіўся ў Клецку у 1983. Пасля школы паступіў у Мінск, скончыў філфак БДУ. Ад 2008 да 2013 выкладаў мову і літаратуру ў Сіняўскай і Карацкай школах Клецкага раёна. Пасля жыў у Мінску, працаваў грузчыкам у гіпермаркеце, здымаў пакой у Бараўлянах. У 2015 быў прыняты ў Саюз беларускіх пісьменнікаў. Друкаваўся ў часопісах «Дзеяслоў», «Верасень», «Літаратурная Беларусь». Аўтар кнігі паэзіі «Астэроід» (2015), якая намінавалася на прэмію імя Максіма Багдановіча «Дэбют».

## «Квітнеючай не зробіцца краіна, Пакуль настаўнік — бедная скаціна...»

На 33-м годзе жыцця загінуў паэт з Клецка Ігар Кананові́ч. У «Нашай Ніве» ляжала прапанаваная ім да друку падборка вершаў.

Добры дзень, паважаная Рэдакцыя!

Вельмі хачу з Вашага дазволу падзяліцца з чытачамі «Нашай Нівы» сваімі настаўніцкімі вершамі.

Паўтара года таму развітаўся з прафесіяй, якая давала самапавагу і цікавыя знаёмствы, але ўрэшце стала палохаць адсутнасцю ўсялякай перспектывы.

Працаваў педагогам на сваёй малой Радзіме 5 гадоў. Бачыў і парадны, і нефармальны бакі жыцця цяперашняй вясковай школы.

Вельмі ўдзячны калегам і вучням (асабліва — з Карацкай СШ Клецкага раёна), якія ў свой час літаральна прыручылі нервовага маладога спецыяліста і прывялі да высновы, што педагогіка — гэта сапраўды яго шлях і не варта здавацца пасля першых прафесійных паразаў.

Стала ведаючы небутафорскую дэмакратычнасць «НН», веру, што дазволена будзе прагучаць гэтай праўдзе — праўдзе душы маладога беларускага настаўніка.

### Настаўніцкі рубеж

Школа як няспынная грызня…
Подласць і прадажніцтва пануюць
Тут. І на дзяцей крычу штодня,
Бо інакш наогул не пачуюць.
Цяжка навучыць іх дабрыні,
Роздуму, шуканню прыгажосці.
Гніль і бруд — у думкі зазірні.
На урок ідзеш нялюбым госцем…
Цяжка тут без цвёрдае рукі.
Не чакай зычлівасці, падзякі:
Любыя дачушкі і сынкі
Штурмам, шантажом бяруць адзнакі.
Мафія — агідны шэры клан —
Суне у начальства недарэку.
Ён жа на уроках — як той пан!
Ну дык — пад «вяльможнаю» апекай!
«Шэф» яго ніколі не кране.
Іншыя настаўнікі баяцца
«Хлопчыка душыць», але мяне
Злосць бярэ. Крычу: «Шаноўны — працай!»
Вытруцяць са школы — далібог!
Ды на літасць больш не спадзяюся —
Адшыбаю «дублем» «юны рог».
Можа, хоць задумацца прымусіў?..
Вытруцяць са школы — дайце час.
Маладыя ў рот глядзець павінны?
«Але ж ён даўно счарнеў у вас!» —
Адкажу. І — знойдуцца прычыны…
Там, дзе чынаўё не бачыць меж,
Праўду гаварыць — дурная справа…
Але стол настаўніцкі — рубеж.
Годнасці адчайная застава…

### Школа пачынаецца…

Тут не цяжка — палку перагнуць.
Проста адпачніце, супраматы!
Пыхне раздражненне: «Каламуць!»
Прызнаюся шчыра: не флегматык…
Школа пачынаецца… з вайны.
Хітры клас, вясёлы і гарачы.
Юнакі бяздумныя — яны.
Я — старэйшы на сем год выкладчык…
Часты паратунак — «чысты» блеф.
Маецца яшчэ адна прычына.
Раптам зніадкуль наскочыць «шэф»:
— Як ідзе працэс?
— Належным чынам!..
І рамантык скончыўся, памёр
(Не чакай, бядак, вялікай ласкі!).
Меркаваў, благі з мяне актор,
А цяпер… паверыць Станіслаўскі.
Скептык (цынік?): вось і «клінам клін»…
Не абвінавачваю нікога.
Але зноў — будзільнік: сем гадзін.
Снеданне і гразкая дарога…
Светла у настаўніцкім. Вясна
Ціўкае за шыбамі на сонцы
Сем урокаў. Класная вайна!
Вынік — ні «снарадаў», ні эмоцый…

### Капішча року

Цеснаваты мундзір лейтэнанта народнай асветы.
Іранічная роля. Надзьмуты дырэктар-«камбат».
«Тэма… мэта…» і ўсё: надалей не хапае імпэту,
Крэмзаць школьныя планы. Ніякі з мяне бюракрат…
Лепш гітару вазьму ды спяю пра нядолю і шчасце,
Пра каханне, растанне, гулянне і верных сяброў!
…Ты адна не сышла ад мяне, не дала мне прапасці…
Зробім капішчам року наняты пакойчык ізноў?!
Цішыню расстраляюць магутныя, жорсткія рыфы —
Пачуццёвыя залпы гітарных раз'юшаных струн.
Разбураюцца песняй мяшчанства агідныя міфы…
Для апошняй атакі мелодыі штых наваструу
І праткну, ашалелы, абрыдлыя бляклыя сцены,
А на рэшту… удару — у нізкую, брудную столь!
Хай драпежная нотка уджаліць галоўную вену
Раўнадушных нябёсаў. Каб сэрца галоднага боль
Перадаўся туды. Не чакаю падзякі, вядома,
Ад Таго, Хто над намі стаіць як адвеку стаяў.
Але рвецца малітва — з душы непакорнай разлому!
Але рвецца малітва — бунтарская, шчыра мая!
Не напішацца план. Аніводны. Ад планаў далёкі,
Для мастацтва жыву.
І няхай ад начальства — «труна»
За «працоўныя подзвігі». Я не пакіну. Я рокер.
Праўда з Воляй — мой крыж,
на якім разагнецца спіна…

### Прашэнне за беднага вучня

Папрашу: як стану волатам пяра,
Прапішуся на старонках хрэстаматый —
Не катуйце маім вершам школяра!
Ён ні ў чым перада мной не вінаваты!
У дарослых, пэўна ж, права і рэзон,
Ды не трэба пакаленняў варажнечы!
Дыскатэка і працяглы, моцны сон —
Найважнейшыя ў юнацкім свеце рэчы!
Гэта ж дзеці БЕЛАРУСКІЯ — СВАЕ!
І найбольш прашу калегу-педагога:
Ну задай, калі праграма (каб яе!..),
Але толькі не напамяць — дзеля Бога!

### Тлумачэнне ў кабінеце дырэктара

Разумееце, верш залучыў да мяне нечакана!
Павітаўся радком, запытаў: «Як, нябога, жывеш?»
І тады я адсунуў падручнікі, сшыткі і планы:
Служба службай, а творчасць, вядома, найперш!
І затанчыў аловак, як п'яны дзяцюк на вяселлі!
Боль, прыгожы і светлы, прадаў мае тайны за грош!
Як на провадзе птушкі, вясновыя літары селі
І шчабечуць на Сонца: маўляў, каб і заўтра не горш!
…Адпусціў я сябе (а які чалавек без заганы?) —
Пакарайце, Сан Саныч, парушыў службовы статут!
Разумею: у школе галоўнае — выгляд і планы.
Ды не гэта запомняць… Вымова? Распісвацца тут?

### Развітанне з прафесіяй

Даўно маглі з праблемай разабрацца.
А сёння можна проста ставіць крыж.
Настаўніка загналі у жабрацтва,
Зарэзалі прафесіі прэстыж.
Квітнеючай не зробіцца краіна,
Пакуль чыноўнік — майстар балбатні,
Пакуль настаўнік — бедная скаціна,
Якую кормяць пугай дзень пры дні.
І вырашыў нарэшце: пакідаю,
Іначай горкі лёс не абміне…
Прафесія — галоўная, святая —
Ідзе на дно. На шчасце, без мяне…

### У выпускны вечар

Выпускны мне нагадаў былое зноў,
Ды няма дарогі пафаснаму слову.
Школа з'ела чвэрць душы за пяць гадоў.
А прыйшоў вучыць згарэлым напалову…
Сёння школа — як марудны Страшны Суд:
Ні спакою, ні павагі, ні заробку.
Кожны тыдзень ты шукаеш «пяты кут».
У «гарачую», настаўнік, трапіў «кропку»!
Вось і звольніўся. Адхлынула бяда.
Але сэрцам не магу сказаць: «Бывайце!»
Мабыць, школьнікаў пакінутых шкада,
Справядлівасцю абдзеленых на старце…
Не ацэняць, пачатковец-педагог,
Ні вучонасці тваёй, ні гуманізму.
Не хачу цябе пужаць, ды, бачыць Бог,
Пачынаецца твой шлях ніжэй, чым знізу…

**Ігар Кананові́ч, Клецк**
**(пайшоў з жыцця 19 чэрвеня 2016 года)**

трычка «Мінск — Гарадзея», якой ён кіраваў.

Пра цяжкі перыяд у жыцці паэта сведчыць і ягоны апошні верш. Кананові́ч даслаў яго Андрэю Хадановічу за некалькі дзён да смерці.

**Правільны пасыл**

Патрэбны спакой.
І кропелька ўдачы.
Каб перайначыць
гэты, пакуль што сабачы,
лёс.
Я сур'ёзна падрос,
і мне цісне каўнерык дзіцячы...
Цісную маміны «звышзадачы»:
служы паспяховаму гаду,
старэйшага слухай параду,
не лезь у вялікую зваду...
Of course!..
Патрэбны прасцяг. І кропелька
Сонца.
А не навінаў ментальны стронцый!
Я стаміўся ўдзельнічаць
у гэтай гонцы!
Так, ідзіце вы на …, бос!»

«Цяпер усё чытаецца зусім інакш… Пухам табе зямля, добры чалавеча! Спачуванні родным і блізкім!» — выказаўся старшыня ПЭН-Цэнтра Хадановіч у сваім фэйсбуку.

Спачуванні з прычыны смерці паэта выказаў і Саюз беларускіх пісьменнікаў.

«ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», сябры і аднадумцы выказваюць глыбокія спачуванні родным і блізкім Ігара. Смуткуем разам з вамі. Трагічны сыход Ігара — вялікая страта і для нас, і для Беларусі», — гаворыцца ў спачуванні.

Развітанне з Ігарам адбылося 21 чэрвеня, на яго малой радзіме, у Клецку.

Сябры і знаёмыя Ігара ўзгадваюць яго як таленавітага і гранічна шчырага чалавека, якому лёс паслаў шмат выпрабаванняў.

«Ён заўжды быў моцны чалавек, не здаваўся. У яго ў жыцці было шмат усяго — і з універсітэта яго выключалі. Ён жа спачатку на інжынера вучыўся, але зразумеў, што гэта не ягонае. Рэзка памяняў свой лёс, перайшоў на філфак. А гэта ж зусім іншае, — распавяла радыё «Свабода» зямлячка Ігара Таццяна Дрозд. — У школе працаваў. Але не ўпісаўся ў сістэму, бо там сістэма савецкая. Але збіраў дзяцей у нейкія музычныя гурты. Гэта нікому не падабалася, бо гэта не прынята. Хоць дзеці яго так любілі...».

**Астэроід**

Хай вабяць зноў магутных зорак
галасы —
Не даспадобы мне сістэм
трывалых межы.
Я — астэроід.
Я — Сусвету блудны сын.
Я ў вечным пошуку.
Жыву, а не залежу.

Непадуладная фантазіі краса
Перада мной. Майго жыцця
святая мэта.
Я — астэроід. Валацуга і карсар.
І, можа, толькі геніяльная камета

Мяне прымусіла б нядоўга
паслужыць.
Але парушыцца чарговая прысяга…
Я — астэроід. Я інакш не ўмею жыць.
І гімнам вольнаму —
нянавісць і павага…

Я — астэроід. Незалежны,
моцны рух.
Я — скамянелая энергія палёту.
І, гравітацыі чужой парваўшы круг,
Пераўтвараюся ў свабоды
вечнай ноту…

# «Ёй не было на каго разлічваць»

У Гомелі прадпрымальніца выкінулася з акна напярэдадні суда.

55-гадовая Таццяна Дупанава раніцай 21 чэрвеня выкінулася з балкона на 8-м паверсе.

Вядома, што жанчына працавала па найме ў роднай сястры, была афармленая як наймны работнік. Але працавала фактычна на сябе, ездзіла з таварам па раёнах.

Па словах Анатоля Шумчанкі, лідара грамадскага аб'яднання «Перспектыва», які першым паведаміў пра здарэнне, некалькі тыдняў таму па дарозе ў Чачэрск Дупанаву затрымалі даішнікі. Зацікавіліся дакументамі на тавар і выклікалі АБЭЗ. Па словах яе знаёмых, Дупанаву больш за 3 гадзіны афармлялі ў міліцыі. Таксама канфіскавалі тавар.

22 чэрвеня жанчыну чакаў суд. Але за дзень да гэтага, а 4-й раніцы яна сышла з дому. Паднялася на 8 паверх «маласямейкі», што стаяла непадалёк. Выйшла на агульны балкон — і скочыла ўніз.

«Па факце смерці жанчыны 1960 года нараджэння праводзіцца праверка. Цела знайшлі раніцай 21 чэрвеня ў Савецкім раёне Гомеля. Дакладную прычыну смерці пакажа судова-медыцынская экспертыза. Асноўная версія здарэння — суіцыд», — паведаміла «Нашай Ніве» Марыя Крыванагава, прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта ў Гомельскай вобласці.

Падрабязней пра здарэнне «Нашай Ніве» распавяла Людміла, сяброўка Таццяны Дупанавай.

«Таццяна гандлявала адзеннем. І вось, тыдні з два таму паехала на сваім старым «Опелі» у той Чачэрск. Яна ездзіла па раёнах, сама за рулём, прыязджала з бязарным дзень на мясцовыя рынкі. І ў той дзень, па дарозе ў Чачэрск, мела дзве торбы з сукенкамі, якія і канфіскавалі. Тавару было на 20 мільёнаў рублёў, — кажа Людміла. — Ну і ў яе была нейкая праблема з дакументамі на тавар, ДАІ выклікала АБЭЗ, потым падатковую.

Яе адвезлі кудысьці ў аддзяленне, і хоць у пратаколе стаіць, што дапытвалі тры гадзіны, яна казала мне, што правяла там больш за шэсць. Потым тэлефанавалі сястры Таццяны з падатковай Чачэрска, размаўлялі ў такім тоне, што сястры стала кепска... Карацей, наша сістэма, дзе ўсе такія правільныя, знайшла сабе парушальніка».

Па словах Людмілы, потым Таццяна паехала на гандаль у Буда-Кашалёва, каб зарабіць на аплату штрафаў. І прыйшлі дзве жанчыны, якія сфатаграфавалі яе гандаль, а пасля Таццяну зноў выклікалі ў падатковую.

«І вось у яе здарыўся псіхалагічны зрыў», — наракае Людміла.

Людміла запэўнівала, што пойдзе на суд разам з ёй, на Таццяну ціснула тое, што яна нібыта «будзе выглядаць злачынцам» перад сястрой і тое, што ў сястры могуць быць праблемы праз яе.

«Я прапаноўвала ёй пазваніць Шумчанку, праканcультавацца, але Таццяна адмаўлялася, казала, што яна ж не прадпрымальнік афіцыйна, а наймны работнік. Яна баялася нават ісці да адвакатаў — лічыла, што, калі на суд прыйдзе з адвакатам, падумаюць, што яна «крутая», — узгадвае Людміла. — Штраф ад 100 да 200 базавых, які паабяцалі, — для яе гэта было ўсё. Баялася яшчэ, што з 1 ліпеня пачнуцца новыя праверкі... За гэтыя тыдні яна схуднела на 14 кілаграмаў, перастала есці, спаць... Ёй патрэбная была псіхалагічная дапамога, мы ўсе яе супакойвалі, але на такі вынік ніхто не разлічваў, вядома...».

Людміла кажа, што бяда з Таццянай павінна паказаць, што ўсё ж з людзьмі трэба абыходзіцца палюдску, паблажліва.

«Грэх яна ўзяла на сваю душу... Гэта быў маленькі шчыры чалавек, яна ж ніколі не была «акулай бізнэсу».

Яна ж кожны дзень сама ездзіла з гэтымі дзвюма торбамі, сама на ржавай машыне сваёй. Сама вырасціла дзвюх дачок — першы муж памёр маладым і якраз у Таццянін дзень... Але вось, у яе былі тры любімыя ўнучкі, яна сустрэла добрага мужчыну, з якім жыла добра... І вось так усё скончылася», — кажа сяброўка.

**Уладзіслаў Швядовіч**

# Удовы вайны

**Працяг са старонкі 5.**

Пасярод балота, на ўзвышшы, стаяў хутар, а ля хутара рос вялізны магутны дуб. Нібыта зялёны ветразь, пісаў я тады — малады, рамантычны... Ветразь ветразем, але хутар дашчэнту зруйнавалі, старую, ад вайны ўдаву, што векавала там у адзіноце, перасялілі ў вёску, у новую хату. Толькі кожную раніцу яна прыходзіла да свайго зруйнаванага гнязда, па цаглінцы збірала тое, што засталося ад печы, акуратна складала гэтыя цаглінкі на былым дварышчы. А потым пайшла да меліяратараў прасіць машыну, каб перавезці цэглу ў вёску, да новай хаты. «Навошта яны табе, бабуля? Што ты з імі рабіць будзеш?» — «Не ведаю, сынкі, а ўсё ж печ была, не абы-што...» Машыну далі, цагліны пагрузілі... А праз тыдзень узяліся за дуб. Раз, другі... Адно што парэзы ад бульдозера засталіся на ягоным магутным целе. Добра, вырашылі тады Мікалай, хай жыве, хай адпачываюць у ягоным цені людзі, назапашваюць сілы для новай працы.

...— Памятаеш дуб, Мікалай? Жыве?

— Засох, — цяжка ўздыхнуў Мікалай.

...Яны збіраліся ў хаце старога Каладзінскага, Бармуцкія ўдовы, рассаджваліся, саступаючы адна адной месца бліжэй да печы, і па ўсім было відаць, што ім звыклы такі агульны бабін збор. Хто падлічыць тыя доўгія зімовыя вечары, калі збіраліся яны вось так разам, адагравалі адна адну ад халоднай цемрадзі адзіноты, шукаючы адна ў адной апоры, падтрымліваючы нязгасны вугольчык надзеі?

Не, не ўсе мужыкі не вярнуліся ў Бармуты з вайны. Дайшлі, адваяваўшы, Уладзімір Каладзінскі, Аляксандр Шылінец, «як цень загробны» вярнуўся з германскай няволі Давыд Скарына...

## Вось яны, думаў я, два беларусы, дзве ахвяры безбацькоўства

Усё, чым былі калісьці Бармуты, засталося пад небам двума сціплымі абеліскамі. Адзін — Мартыну Вячорку, кіраўніку падпольшчыкаў, закатаванаму ў 1930-я польскай дэфензіве. Другі тым, хто палёг пад кулямі карнікаў 2 чэрвеня 1942 года...

Абеліскамі засталіся тыя, даваенныя Бармуты. З абеліскаў жа і пачыналіся пасля вайны, калі, сабраўшы жанчын пад сваё старшынства ў першы калгас, Каладзінскі сказаў: ушануем памяць... Паставілі іх проста насупраць ягонай хаты. І Яша, сын, не ведаючы яшчэ, што будзе настаўнікам, выпісваў на іх імёны тых, каго сам шасцігадовым хлопчыкам бачыў у апошні раз...

Вось і пазбіраліся яны разам, бармуцкія ўдовы. І пацяклі ўспаміны, няспешныя аповеды пра тое, як жылі, як працавалі, не разгінаючы спінаў, расцілі дзетак, чакалі...

Я гляджу на Мікалая. Ён сядзеў, апусціўшы галаву, камячыў шапку. Пра што ён думаў тады, апусціўшы галаву? Ці не пра тое, што, ідучы кожную раніцу на працу ў сельсавет, бачыць на абеліску прозвішча свайго бацькі, Ціхана Шэшкі, які палёг у 45-м у далёкім германскім горадзе Бельведэры? А мо пра малодшага брата свайго, памерлага падчас вайны ад голаду і хваробаў? А мо пра матулю, пра яе нявыплаканыя слёзы?..

Згадаўся той, з домакіраўніцтва, сталічны былы вясковец, увесь несакрушальны аптымізм ягонага выгляду. Асабліва рып тоўстага, з прэтэнзіяй на моду, скуранога паліто, і гладкаскуры, расчырванелы, у кропельках поту твар з-пад гэткага ж, з дзвюма дзірачкамі, для вентыляцыі, мусіць, капелюша.

Вось яны, думаў я, два беларусы, дзве ахвяры безбацькоўства, дзве ахвяры вайны. Адзін апусціў галаву, камячыць шапку, вінавацціца... Другі толькі і чакае ад «мамусі», каб вінавацілася перад ім.

...Збіваўся з падліку, каторы раз загінаючы пальцы, Каладзінскі-малодшы, намагаўся дакладна вылічыць, колькі ж пасля вайны засталося ў Бармутах удоваў. «Не, — вымавіў, — не атрымаецца ў нас арыфметыка».

Сапраўды не атрымаецца. Няма такога падліку, якім магчыма было б разлічыцца з вайной.

— А ці праўда, — запытаўся я, — што вы ўсё яшчэ чакаеце сваіх мужоў?

Працягнула дрыжачую паперку цётка Зуля, Соф'я Венядзіктаўна: «...вось, тут напісана, што Кастусік мой без вестак прапаўшы...» А цётка Ганна, Ганна Фамінічна, вымавіла: «А што ж, я свайго сама не хавала... Няма ў нас іншай моцы супраць вайны, як толькі чакаць...»

784...

**P.S.** Вёска Бармуты, Бярозаўскі раён, Брэсцкая вобласць:
1940 год — 75 двароў, 405 жыхароў.
2005 год — 17 двароў, 26 жыхароў.

**Здароўе**

# Аўсяная каша дапаможа ўберагчыся ад раку

Навукоўцы з Гарвардскага ўніверсітэта правялі даследаванні і высветлілі, што пастаяннае ўжыванне аўсянай кашы можа зберагчы чалавека ад раку, гаворыцца на сайце The Telegraph.

Даследчыкі прааналізавалі 12 буйных эксперыментаў, у якіх узялі ўдзел 800 тысяч чалавек. Яны высветлілі, што ў людзей, якія кожны дзень з'ядалі 70 г цэльнага збожжа, рызыка памерці ад любых захворванняў зніжалася на 22%, а ў выніку раку — на 20%.

І гэта яшчэ не ўсё, у людзей на 20% зніжалася рызыка смерці ў выніку сардэчна-сасудзістых захворванняў.

Амерыканскія навукоўцы раяць усім пачынаць дзень з талеркі аўсянай кашы — 70—100 г цэльнага збожжа. Стравы з аўсянкі — гэта яшчэ і павольныя вугляводы, якія даюць арганізму сілы на ўвесь дзень.

І наогул, аўсянку не любіць нельга, можна проста не ўмець яе гатаваць! Вельмі смачная каша будзе з чарніцамі, шакаладам, мёдам і нават сырам.

# Выпрабавана на сабе: як адкрыць адзіную ў горадзе беларускамоўную групу ў дзіцячым садку

Сваім досведам з «Нашай Нівай» падзялілася Наталля Святкіна, намаганнямі якой з’явілася беларускамоўная група ў адным з садкоў Гродна.

«Сама я родам з Мінска, але па сямейных абставінах у 2006 годзе пераехала ў Гродна — выйшла туды замуж. Сама я стала размаўляю па-беларуску прыкладна з 2003 года. Я вучылася ў педагагічным каледжы, скончыла яго ў канцы 90-х. Можа, і вучоба трохі паўплывала, у нас былі добрыя выкладчыкі, вельмі інтэлігентная атмасфера. Але я яшчэ была вельмі рускамоўная, мой тата вайсковец, родам з Расіі, і я была вызваленая ў школе ад вывучэння беларускай.

I вось аднойчы мы штосьці вельмі горача абмяркоўвалі з сябрамі, пра расы, нацыі і нацыянальнасці, і адзін хлопец сказаў: «Вось вы, беларусы, таксама быдла. У вас ёсць мова, а вы ёй не карыстаецеся». I наступнай раніцай я прачнулася і падумала: не, я не быдла.

I я спачатку пачала сама з сабою размаўляць па-беларуску, а потым ужо і з людзьмі. Думала, што будзе цяжка: як адрэагуюць даўнія знаёмыя? Але аказалася, што і тыя гавораць на беларускай, і гэтыя... Ну, і далей ужо «панеслася».

Дык вось, у Гродне ў 2009 годзе ў мяне нарадзіўся сын. Назвалі Францішкам. Муж мой таксама беларускамоўны, мы пачалі адразу задумвацца, што будзем рабіць, калі малое падрасце.

Фактычна, як дзіця нарадзілася, я пачала збіраць аднадумцаў праз сацсеткі. Я ж спачатку думала, што Гродна — цэнтр беларускага нацыяналізму, аказалася, што не. Беларускай групы ў ніводным садку не было. Раней калісьці былі, але падказаць, да каго звярнуцца, каб аднавіць гэтую справу, ніхто не мог. Я зразумела, што павінна ўзяць працэс у свае рукі. Пачала хадзіць па чыноўніках.

Насустрач ішлі не заўсёды. Часам нават перашкаджалі. Ходзіш па інстанцыях, табе прыгожа адказваюць: «Вядома, у нас усё ёсць: і педагогі, і метадычная літаратура». А калі даведваюцца, што я хачу стварыць беларускамоўную групу, то адразу ўзнікаюць праблемы: бо хочуць, каб усе дзеці пайшлі ў адзін сад, у які павінны ісці «па прапісцы», каб было 20 чалавек, і гэтак далей.

Часам было нават так: мае знаёмыя хадзілі ў аддзел адукацыі, запісаліся, што хочуць аддаць





дзіця ў беларускі садок. I я прыходжу пазней у той жа аддзел са спісам дзесяці ахвотных, а ў чыноўнікаў гэтых імёнаў няма. I мяне пераконваюць, што ніхто нікуды не запісваўся. А потым высвятляецца, што там тры камп’ютары, і адных запісвалі на правым, другіх на левым, а трэба было ўсіх на тым, які стаіць пасярэдзіне, а яшчэ нейкія імёны згубілі, бо запісалі на паперцы...

Нарэшце, спісы ахвотных мы сінхранізавалі. А мяне тады ўжо больш-менш ведалі, што я займаюся гэтай справай. I людзі пачалі расказваць, што калі яны прыходзяць наўпрост у садок, дзе мы хацелі адкрыць беларускую групу, то іх адгаворваае там загадчыца, кажа: «Навошта вам гэта, тут будуць хадзіць свядомыя такія, хто ў сем’ях размаўляе па-беларуску, а ў вас жа такога няма».

Агулам я займалася гэтым прыкладна два з паловай года, ці не з самага нараджэння сына. Але, нарэшце, мы сабралі двухузроставую групу, максімум па санітарных нормах у якой можа быць 12 чалавек. Нам выдзелілі садок у цэнтры, бо ўсе былі з розных раёнаў, тут аддзел адукацыі ўжо пайшоў нам насустрач.

I тут, за тыдзень да пачатку навучальнага года, паўстала новая праблема: раней казалі, што ёсць і педагогі, і выхавацельні, але высветлілася, што няма. Узялі на пасаду нашу знаёмую, якую ў аддзеле адукацыі спачатку браць не хацелі.

Так і адкрылася наша група. На 1 верасня прыйшло толькі васьмёра. Але ну хоць яны!

А пасля першага года наша група пачала лічыцца прэстыжнай. Паўсюль садкі перапоўненыя, а ў нас дзяцей мала. Пачалі ў нас з’яўляцца і новыя дзеці, і іншыя выхавацелі. На выпускны ў нас было ўжо 15 дзяцей.

Калі нашы дзеці падраслі, то ў гэтым жа садку адкрылі яшчэ адну белмоўную групу. Ужо такіх намаганняў бацькам прыкладаць не трэба было, адкрылі даволі спакойна.

Ну вось, а сёлета нашы дзеці з садка выйшлі. Я з сынам па сямейных прычынах пераехала ў Мінск. Мой Францішак паступіў у 23-ю гімназію.

Ці застануцца ў будучыні гэтыя беларускамоўныя групы ў гарадзенскім садку — не ведаю. Бо заўсёды трэба, каб хтосьці гэта цягнуў. Я магла сабе гэта дазволіць, бо мела інтарэс і мела час. Калі такога чалавека не будзе — усё, баюся, вернецца пацыху да старога «балота».

Калі хтосьці хоча таксама стварыць беларускую групу ў садку свайго горада, то я скажу наступнае. Адкрыць такую групу можна паўсюль. Аднадумцаў добра шукаць праз сацсеткі. З аддзелам адукацыі абавязкова трэба сябраваць, прычым пажадана сябраваць «зверху», бо гэта такая строгая вертыкаль... I рабіць, рабіць, рабіць.

Некаторыя нават апазіцыянеры любяць казаць, маўляў, «Дайце нам!» ці «А дзяржава павінна!..». Дык пачынайце рабіць першыя крокі самі, тады вам дадуць. Бо я магу зразумець і аддзел адукацыі: часам лямант «Адчыніце нам садок!» ёсць, а заяваў да іх ніхто так і не нясе. Нясіце заявы, абмяркоўвайце раён, збірайце бацькоў-аднадумцаў... Карацей, дзейнічайце — і ўсё ўдасца».

**Гутарыў Улад Швядовіч**

## Беларускамоўныя садкі сталіцы

**Спіс дзіцячых садкоў Мінска, у якіх ужо функцыянуюць беларускамоўныя групы.**

Каб сфарміраваць беларускамоўную групу, трэба гуртавацца з іншымі бацькамі, якія таксама таго хочуць. Як паказвае досвед, арганізаваць групу можна — галоўнае, каб была энергія ў саміх бацькоў і наяўнасць памяшкання і спецыялістаў у садках. Не бойцеся размаўляць з чыноўнікамі і адміністрацыяй установаў — калі праявіць настойлівасць і ініцыятыву, то яны пойдуць вам насустрач.

У ніжэй пералічаных садках ступень беларускасці залежыць ад бацькоў і выхавацелек: там дзе энергічных бацькоў больш, там больш і беларускасці.

Першамайскі раён
ДДУ №273 (Каліноўскага, 89).
Т.: (017) 263-06-84.
ДДУ №522 (Русіянава, 23).
ДДУ №66 (пр. Незалежнасці, 102а). Т.: (017) 267-60-52, (017) 267-49-05.
ДДУ№361 (Цікоцкага, 44).
Т.: (017) 263-38-28.

Заводскі раён
ДДУ №202 (Партызанскі пр., 85а). Т.: (017) 295-12-92.

Маскоўскі раён
ДДУ №412 (пр. Газеты «Праўда», 64а). Т.: (017) 277-18-17.
ДДУ №473 (Ясеніна, 6/4).
Т.: (017) 207-90-68.

Савецкі раён
ДДУ №314 (Багдановіча, 68а).
Т.: (017) 334-50-25, (017) 334-25-61.

Фрунзенскі раён
ДДУ №534 (Матусевіча, 59).
Т.: (017) 257-76-91.

Цэнтральны раён
ДДУ № 187 (Кахоўская, 64а).
Т.: (017) 288-06-71
ДДУ № 503 (Радужная, 4, корп. 2). Т.: (017) 250-17-59.

Важна памятаць, што ў некаторых садках групы могуць быць ужо ўкамплектаваныя, ці, па тых альбо іншых прычынах, існаванне такіх груп спыненае. Таму ўдакладняйце інфармацыю па пазначаных тэлефонах — і поспехаў Вам і Вашым дзеткам!



## Як расонскія чыноўнікі расстралялі Яна Баршчэўскага

Нават не ўзгадаю, колькі разоў перачытваў «Шляхціца Завальню», але штораз атрымліваў шчырую асалоду ад літаратурных шатаў, у якія Ян Баршчэўскі ўвабраў тонкія і гарманічныя ўзаемаадносіны паміж Чалавекам і Бацькаўшчынай. Міфы, легенды, паданні Паўночнай Беларусі, затканыя ў мастацкае палатно, вабяць і клічуць дагэтуль, як ліхтар на сядзібе Завальні, што даваў надзею падарожным людзям знайсці свой бераг на зімніках суворай Нешчарды.

Для цяперашняй Расоншчыны, калі адкінуць партызанскі пафас імя Машэрава, пісьменнік і паэт Ян Баршчэўскі ёсць першай знакавай асобай краю, бо так уславіць родны кут у мяккім сутонні паміж рэальнасцю і міфам не змог ні адзін з ягоных землякоў...

Пра тое, што помнікі Яну Баршчэўскаму ўжо даўна мусяць стаяць як у Полацку, так і ў Расонах, шмат пісаць не буду. Бо на сёння мяне ўразіла і агаломшыла стаўленне расонскіх чыноўнікаў да аўтара незабыўнага «Шляхціца Завальні». У рускамоўным турыстычным буклеце «Дорогами легенд», які быў выдадзены аддзелам спорту і турызму Расонскага райвыканкама, наведнікам раёну прапанаваны турыстычны маршрут, дзе адным з пунктаў — вёска Мурагі. Калісьці невялічкі фальварак на беразе Нешчарды, дзе ў 1794 годзе нарадзіўся Ян Баршчэўскі. Але ў тым буклеце чорным па белым напісана: «д. Мураги — место расстрела Яна Борщевского».

Насамрэч пісьменнік памёр ад сухотаў у 1851 г. у Чуднаве на Валыні. I неістотна, што цяпер Google дазваляе не выстаўляць сваю тупасць і непісьменнасць напаказ.

**Уладзімір Лобач**

# Валійскія «цмокі» — сенсацыя Еўра

Уэльс **адправіў дамоў зборную Расіі** і даў бой англічанам.

Яшчэ 15 гадоў таму траплянне зборнай Уэльса на футбольнае топ-спаборніцтва ўспрымалася б усімі як сенсацыя, хаця тады за каманду гуляў адзін з найбольш яркіх гульцоў свайго часу — Раян Гігз з «Манчэстэр Юнайтэд».

Гігз вызначаўся выключнай вернасцю «МЮ», за які правёў усю сваю кар’еру. За што заслужыў славу і пашану ва ўсім свеце. З «Манчэстэрам» «валійскі чараўнік», як называлі Гігза ў СМІ, выйграваў чэмпіянаты Англіі, Лігу чэмпіёнаў. А вось дабіцца поспехаў са зборнай так і не ўдалося.

Гістарычна склалася, што не існуе зборнай Вялікабрытаніі па футболе (яна збіраецца толькі на Алімпіядзе). Затое ў міжнародных спаборніцтвах выступаюць асобныя суб’екты гэтай краіны — Англія, Шатландыя, Уэльс, Паўночная Ірландыя. На гэтае Еўра прабіліся ўсе, апроч шатландцаў. Атрымаўся своеасаблівы адкрыты чэмпіянат Брытаніі.

Футбольная асацыяцыя Уэльса — трэцяя па даўнасці ўтварэння ў свеце. І пры ўсім пры гэтым валійцы толькі ў другі раз у гісторыі бяруць удзел



**Брамнік Оўэн Уільямс прадае свае карціны па 500 фунтаў.**

у топ-чэмпіянаце. Першы раз гэта здарылася на мундыялі 1958 года ў Швецыі. «Цмокі» — зборную Уэльса называюць так праз вялікага чырвонага цмока на сцягу краіны — на групавым этапе згулялі тры нічыіх. Гэтага хапіла для выхаду ў чвэрцьфінал, дзе валійцаў чакалі маладыя і галодныя да перамог бразільцы.

Той драматычны матч скончыўся мінімальнай перамогай Бразіліі (1:0), а адзіны гол забіў 17-гадовы Пеле, тады яшчэ зусім не сусветная легенда. Паўфінал і фінал для бразільцаў склаліся куды лягчэй. Яны па чарзе адужалі Францыю і Швецыю з аднолькавым лікам 5:2.

Пасля гэтага валійцаў чакалі 58 гадоў забыцця. Каманда ніяк не



**Гарэт Бэйл выбіўся ў найлепшыя бамбардзіры Еўра.**

магла прайсці сіты адбору да Еўра ці мундыяляў.

Перасякаліся з валійцамі і беларусы. У адборы да чэмпіянату свету 2002 года нашы спачатку перамаглі валійцаў на чале з Гігзам дома 2:1 (забілі Бялькевіч і Хацкевіч), а потым саступілі 0:1 у Кардыфе. Калі б перамаглі, то апярэджвалі б Украіну і працягвалі змагацца за пуцёўку на мундыяль. Той адбор пад кіраўніцтвам Эдуарда Малафеева так і застаўся самым паспяховым для нашых хлопцаў, а вось Уэльс пайшоў далей.

У 2003 валійцы гулялі стыкавыя матчы за траплянне на Еўра з Расіяй. Нашы ўсходнія суседзі перамаглі ў Кардыфе 1:0. Той матч запомніцца нецэнзурным крыкам у камеру абаронцы зборнай Расіі Вадзіма Яўсеева: «Х.й вам!». Яўсееў, дарэчы, заканчваць кар’еру прыехаў у жодзінскае «Тарпеда».

Таму атрымалася ў нейкай ступені сімвалічна, што менавіта Уэльс адправіў дамоў Расію сёлета. «Цмокі» гулялі супраць Расіі так, як «Барселона» гуляе з якой «Асасунай». З поўным кантролем сустрэчы і мноствам момантаў.

Ужо на 20 хвіліне расейцы гарэлі з лікам 2:0. У другім тайме Гарэт Бэйл зрабіў перавагу сваёй каманды буйной — 3:0.

У сённяшняй зборнай Уэльса дзве зоркі сусветнай велічыні. Перш за ўсё гэта крайні нападаючы «Рэала» Гарэт Бэйл, а таксама фарбаваны бландзін з «Арсенала» Аарон Рэмзі.

Зборная Уэльса — гэта такія суровыя хлопцы, нездарма некалі значная частка піraцкіх камандзіраў былі якраз валійцамі.

Гарэт Бэйл, напрыклад, расказваў, як яго ледзь не забіў бацька, калі ён прыйшоў дахаты з завушніцай.

Трэнеру валійцаў Крысу Коўлману ў аўтамабільнай аварыі разнесла нагу, якую давялося ампутаваць.

Цемнаскуры капітан валійцаў Эшлі Уільямс у свой час працаваў афіцыянтам, бо заробка футбаліста на жыццё не хапала.

Запасны брамнік Оўэн Уільямс малюе карціны рабочага валійскага побыту.

Культавы паўабаронца Джо Ален разам з жонкай дома гадуе курэй.

А барада Джо Лэдлі мае сваю ўласную фан-суполку ў твітары.

Гэтая зборная яшчэ павінна пашумець на Еўра.

**Зміцер Панкавец**

**Фотафакт**



**Харвацкія фанаты пабіліся… з харвацкімі фанатамі**

Балканы — гэта асаблівы каларыт. Харвацкім хуліганам нават не спатрэбіліся супернікі, каб зладзіць бойку падчас сустрэчы з Чэхіяй (2:2). Свае пайшлі сценкай на сваіх. З фан-сектара на поле запускалі фаеры і петарды, гульня была спыненая на 9 хвілін. Выказваецца меркаванне, што фанаты Харватыі робяць гэта адмыслова, гатовыя ахвяраваць нават зборнай, каб з кіраўніцтва нацыянальнай федэрацыі футбола сышлі карумпаваныя чыноўнікі.

## Важака расійскіх заўзятараў дэпартавалі з Францыі, аднак ён туды зноў вярнуўся

Кіраўнік Усерасійскага аб’яднання заўзятараў Аляксандр Шпрыгін быў арыштаваны ў Тулузе падчас матчу зборнай Расіі з камандай Уэльса.

Раней генконсул Расіі ў Марсэлі Сяргей Малчанаў паведаміў, што Шпрыгін знаходзіўся ў Тулузе і быў на матчы Расіі з Уэльсам. Ён вярнуўся ў Францыю разам з трыма іншымі заўзятарамі, якіх дэпартавалі з Францыі 18 чэрвеня.

«Шпрыгін сапраўды затрыманы і дастаўлены ў аддзяленне паліцыі ў аэрапорце. У бліжэйшы час па ім будзе прынята рашэнне і ён будзе высланы з краіны», — паведаміў генконсул.

Малчанаў дадаў, што Шпрыгіну была вынесена забарона на знаходжанне ў Францыі, якая ўступіла ў сілу ў панядзелак, 20 чэрвеня. Па словах генконсула, кіраўнік УАЗ мог не ведаць аб гэтай забароне.

Сам Шпрыгін заявіў, што яго затрымалі на стадыёне падчас матча без тлумачэння прычын пры спробе прайсці на сектар заўзятараў.

Расійскія фанаты адзначыліся ў Францыі



**Шпрыгін і яшчэ 20 расійскіх хуліганаў вяртаюцца ў Расію, праз пару дзён яго зноў арыштуюць у Францыі.**

хуліганскімі паводзінамі. Яны ініцыявалі бойкі як у гарадах, гэтак і на стадыёнах. Таму французская ўлады вырашылі дэпартаваць самых буйных.

**ЗП**

# Героі другога тыдня



**Рамэлу Лукаку (Бельгія)**

Некалі аграмадны Заір у Афрыцы належаў маленькай Бельгіі. Сёння ў Бельгіі жыве шмат выхадцаў з Кіншасы. Бацькі Рамэлу Лукаку якраз былі такімі. Рамэлу і Жардэн Лукаку нарадзіліся ў Антверпене, вучыліся футболу ў школе «Андэрлехта», цяпер гуляюць за сваю зборную на Еўра. Рамэлу — прыроджаны снайпер, яго два галы вызначылі перамогу над Ірландыяй (3:0). Лукаку незвычайна моцны фізічна і хуткі футбаліст.




**Арманда Садзіку (Албанія)**

Гэты 25-гадовы хлопец гуляе ў клубе з Ліхтэнштэйна, так, ёсць і такія на Еўра. Праўда, ФК «Вадуц» выступае ў першынстве Швейцарыі, а не Ліхтэнштэйна. Садзіку забіў першы гол сваёй зборнай на топ-спаборніцтвах. Для гэтага «горным арлам» спатрэбілася 70 гадоў. Цікава, колькі спатрэбіцца беларусам. «Я рады бачыць усіх сваіх суайчыннікаў шчаслівымі», — сказаў Садзіку пасля перамогі над Румыніяй 1:0.



**Альвара Марата (Іспанія)**

Некалі гэты футбаліст аказаўся непатрэбным мадрыдскаму «Рэалу». Праз год пасля гэтага двума галамі ў брамы «Рэала» Марата вывеў «Ювентус» у фінал Лігі чэмпіёнаў. Альвара не святкаваў тады тыя галы. А вось дубль у матчы з Турцыяй іспанскі нападаючы ахвотна адзначыў. Іспанія, якую ніхто не разглядаў як відавочнага фаварыта гэтага Еўра, зноў выходзіць на першыя ролі.

**ЗП**

# Палачаны пратэстуюць супраць свінакомплексу па ізраільскім праекце

15 чэрвеня, у сераду, у Доме культуры аграгарадка Палачаны (Маладзечанскі раён) прайшоў сход жыхароў на тэму будаўніцтва свінакомплексу на сто тысяч галоў.

Сабраў людзей Маладзечанскі райвыканкам з нагоды звароту палачанаў (так называюць сябе жыхары Палачанаў) у Адміністрацыю прэзідэнта аб спыненні будаўніцтва гэтага аб'екта. Вышэйшая адміністрацыя спусціла скаргу людзей да ніжэйшай, раённай.

Палачане сабралі больш за паўтысячы подпісаў, дружна выступілі супраць планаў размясціць свінарнік у ваколіцах.

Зала сабралася поўная, людзі былі настроены вельмі рашуча.

Галоўныя пытанні: што будзе з грунтовымі водамі, глебай, чым будуць дыхаць людзі, што будзе з асабістым падвор'ем, чаму ўлада не хоча аднесці аб'ект у больш аддаленае месца?

Праекціроўшчык — ізраільская кампанія, інвестар — кампанія «Вялес-Міт», і дзяржаўная экалагічная экспертыза пераконвалі людзей, што ўсё будзе «ў шакаладзе», і насельніцтву няма чаго баяцца.

Раённая ўлада заняла бок прыватнай камерцыйнай структуры. Людзі абураліся. І не адзін раз з залы гучала пытанне: «Што ж такога павінны зрабіць жыхары Палачанаў, каб гэта пытанне было вырашана на іх карысць?» Адказу на гэтае пытанне яны так і не атрымалі.

Вось стэнаграма відэазапісу сустрэчы, завяршальнай яго часткі.

«**З прэзідыума:** Гэты праект будаўніцтва і выкананне ўказа Вам прынясуць толькі станоўчыя моманты.

**Жыхар:** Мы не супраць!

З прэзідыума: Ваша права, на сённяшні момант, пагаджацца або не пагаджацца. Калі ёсць у вас жаданне, мы будзем абмяркоўваць экалагічную праблему. Яна выразна акрэсленая тут.

**Жыхар:** Дайце чалавеку сказаць!

**Другі жыхар:** На радзіме Кебіча, вёска Канюшаўшчына. Рэчка была, крынічная вада цякла, дык так там падзьме адтуль, дыхаць няможна, ад рэчкі застаўся адзін ручаёк, а вы нейкую экалогію тут творыце. Якая тут экалогія? Усё тут у калодзежы пацячэ.

**Жыхарка:** У нас усё цячэ ў Бярэзіну з гэтай гары, а тады — у Нёман.

**Жыхарка:** Разлівы — гэта не толькі лёгкія Палачан, але і лёгкія ўсяго раёна і таго самага Маладзечна.

**Жыхарка:** Усе знаюць факт, тут не дадуць збрахаць, што некалькі гадоў назад такі паток ішоў адтуль, дзе вы збіраецеся будаваць свінакомплекс… Былі ліўні, і пёр такой паток, заліло ўвесь лог і сарвала мост між Лапінцамі і Палачанамі. Куда вы сунеце гэты комплекс? Куда вы его сунеце?

**Жыхарка:** Пытанне адно — вызначце іншае месца будаўніцтва свінакомплексу.

**Жыхарка:** Свінакомплекс знаходзіцца ў радыусе сямі вёсак. Там пражываюць 1500 жыхароў. З гэтых жыхароў — 300 дзяцей, 800 працаздольных і 400 пенсіянераў. Вы ўяўляеце, якраз свінакомплекс знаходзіцца ў цэнтры гэтых вёсак. Гэта Палачаны, Вялікае Сяло, Якімоўшчына, Зоранька, Гаеўцы, Груздаўка. І вы ўяўляеце, што вы робіце? Мы, усе людзі, падпісаліся, сабралі подпісы і гэта не ўсё — не паспелі ўсе подпісы сабраць.

**Жыхарка:** Збяром!

**Жыхарка:** Людзі да вас па дапамогу звяртаюцца, а вы кажаце…

**У зале:** Ды яны ўсе прэзідэнта баяцца.

**Жыхарка:** Справа ў тым, што вы прэзідэнта падманваеце, у нас жа ёсць дакументы на руках. Мы пішам адзін ліст, а нам з аблвыканкама, што не ўрадлівыя землі тут.



**Жыхарка:** Чаму, чаму вы так ставіцеся? Вы ж ведаеце, што трэба заступацца за людзей, абараняць. Усе тут прысутныя, яны ўсе супраць будаўніцтва комплексу. Я была на апошнім сходзе, што адбыўся. Як ён праводзіўся? Ён праводзіўся так, што мясцовыя жыхары не патрапілі на гэты сход. Там нас было толькі 5 чалавек, і тое мы стаялі на вуліцы. Хіба гэта сход?

А зараз мы дамагліся таго, што тут праводзіцца сход. Мы ж не так заслужылі. Вы павінны падтрымліваць. Нам блага робіцца ад таго, што мы не бачым з вашага боку падтрымкі. Разумееце?

Вы кажаце, што ў нас няма вайны. Ды я жыву побач з асфальтавым заводам. 300 метраў ад асфальтавага завода. У нас трое дзяцей памерла ад лейкозу, уяўляеце — рак крыві. Гора. Праз год. Аднаму 7 гадоў, другому 8. А вы кажаце, што ў нас усё будзе добра? Якое ў нас добра? Нават вось плакаць хочацца ад таго, што бачыш бяздзейнасць нашых уладаў.

Я разумею, што нам пытацца са старшыні сельскага савета або са старшыні калгаса, а што яны могуць сказаць? Яны ж ніжэйшае звяно. Ім загадана — яны сядзяць. Што яны могуць сказаць?

Усё сыходзіць зверху. Мы ж ведаем, што вы будуеце на якасных землях. І прэзідэнта падманулі. Яму перададзена хлуслівая інфармацыя. Мы дойдзем да прэзідэнта любымі шляхамі, і ўсё роўна гэта будаўніцтва не ажыццявіцца.

**Жыхарка:** Што тычыцца фінансавага пытання, эканомікі і фінансаў. Водаправод нам абяцаюць падвесці, свіней бясплатна дадуць, кучу дабротаў нам абяцаюць. Не трэба нам гэтага!

За гэтыя грошы перанясіце комплекс далей ад вёскі. У другі раён. Вам так будзе дзешавей.

**Старшыня:** Уяўляеце, у іншым раёне такія ж людзі, як вы. Паважаныя жыхары аг.Палачаны, вы маеце права яшчэ раз звярнуцца да прэзідэнта. Але мы сёння не маем права абмяркоўваць указ прэзідэнта. Яго можа адмяніць толькі сам прэзідэнт. Мы з вамі абмеркавалі экалагічную праблему, скажам так, паспяхова.

А ваша далейшае права — жальцеся прэзідэнту на прэзідэнта.

**Жыхары:** Баімся, так?

**Старшыня:** Усё вы ведаеце, напэўна, будзем заканчваць, дзякуй усім, што ўзялі ўдзел, і да сустэчы.

*(Шум.)*

**Жыхары:** Не! Куды? Чакайця!

*(Зайграла музыка.)*

**Чалавек выйшаў на сцэну:** Дарагія людзі, давайце будзем рашаць, будзе тут свінарнік ці не будзе?

**Жыхары:** Не!

**Чалавек са сцэны:** Тады ніякая ўлада, ніякі інвестар, калі нам не трэба тут свінарнік — яго тут не будзе!

*(Апладысменты. Музыка грае гучней.)*

## «Я бачу перад сабой інтэлектуала, і мне было б цікава часам камунікаваць» — спецслужбіст правёў гутарку з мінчуком, які сабраўся ў дэпутаты

Павел Стэфановіч агучыў жаданне пайсці на выбары з двума лозунгамі: легалізацыі марыхуаны і барацьбы з хатнім гвалтам. Амаль адразу яго выклікалі ў ваенкамат, позву прынеслі проста дахаты. А там яго чакала вось што.

«Тэлефон давялося пакінуць на вахце (сімку, батарэйку і флэшку я забраў. Глупства, трэба было зусім без тэлефона ісці), — піша Стэфановіч у сваім фэйсбуку. — Мужык назваўся «Несцеравым Аляксандрам Аляксандравічам». Лысеючы дзядзька гадоў 33, трэніраваны, але не сухі, кг 90, кажа, што з Мінска, глядзіць у вочы амаль без прыпынку, але не выглядае страшным. Я праз 3 хвіліны выказаў жаданне сысці, устаў і накіраваўся да выхаду, ён устаў і пачаў угаворваць, што «проста пагаворым», нават абяцаў паказаць свае дакументы ў канцы гутаркі. Добра, пагаворым. «Давайце на ты». — «Давайце не». Пытаўся пра тое, дзе працуе маці, як я вучуся (ведаў сярэдні бал ва ўніверсітэце і нават балы



пры паступленні ў БДУ, ведаў, што вучыўся ў Пецярбургу, нават чытаў мой леташні артыкул пра байкот, спрабаваў вывесці на размову «іншыя прадстаўнікі дэмакратычных сіл не валодаюць фактамі і логікай»).

Пытаўся пра інтарэсы — ну, я распавёў пра філасофію Дэвіда Чалмерса, мне не шкада. Выказваць сваё меркаванне на любыя пытанні ён пачынаў з фразы «ну, з аднаго боку, так», а што з другога боку — ніколі не казаў.

Пытаўся пра парламенцкую кампанію, ці буду ўдзельнічаць — «можа быць», у якасці назіральніка або кандыдата — «можа быць».

Казаў, трэба, каб маё жыццё і кар'ера прайшлі без эксцэсаў. На маю заўвагу, што я законапаслухмяны чалавек і мне няма чаго баяцца, ён адказаў, што эксцэсы з такімі таксама здараюцца. Ну, вы зразумелі.

Ну, і кароннае: «Я бачу перад сабой інтэлектуала, і мне было б цікава часам звязвацца з вамі і камунікаваць». Адказаў, што хай дадаецца да мяне ў фэйсбук або прыходзіць на офіс на Веры Харужай, пасядзім, гарбаты пап'ём. «Але ж вы разумееце, што я не магу прыйсці да вас у офіс». Ён абяцаў пастукацца ў сеціве.

У сярэдзіне размовы папрасіў, каб я не пісаў і не згадваў пра гэтую размову. Я адказаў, што ўжо напісаў пра тое, што іду ў ваенкамат. Ён пачаў пытацца «навошта», «які сэнс» і потым недзе 20 хвілін пераконваў, што не трэба гэтага рабіць. Я адказаў, што яго словы прынятыя да ведама, але ўсё роўна напішу.

Свае дакументы ў канцы паказаць адмовіўся — адразу відаць сумленнага чалавека.

І што, і навошта?» — пытаецца ў заключэнне Павел Стэфановіч.

«НН» з радасцю друкуе ў газеце і на сайце www.nn.by чытацкія лісты, водгукі і меркаванні. З прычыны вялікага аб'ёму пошты мы не можам пацвярджаць атрыманне Вашых лістоў, не можам і вяртаць неапублікаваныя матэрыялы. Рэдакцыя пакідае за сабой права рэдагаваць допісы. Лісты мусяць быць падпісаныя, з пазнакай адраса. Вы можаце дасылаць іх поштай, электроннай поштай ці факсам.
**Наш адрас: а/с 537, 220050 Мінск. e-mail: nn@nn.by.**
**Факс: (017) 284-73-29**

# Сын забіў бацьку-прадпрымальніка за грошы

Гэта здарылася ў Смаргонскім раёне.

Днём 17 чэрвеня ў Смаргонскі РАУС звярнулася жанчына, якая паведаміла, што знік яе 56-гадовы брат, жыхар Мінска, індывідуальны прадпрымальнік, які мог знаходзіцца ў сваім доме ў вёсцы Старыя Баруны.

Следча-аператыўная група распачала пошук. У лесе за некалькі кіламетраў ад вёскі знайшлі аўтамабіль зніклага. Пасля гэтага быў агледжаны і дом у Старых Барунах. Як паведаміла прэс-служба Следчага камітэта, у ім знайшлі цела зніклага мужчыны са слядамі гвалтоўнай смерці.

Па факце забойства Смаргонскім раённым аддзелам Следчага камітэта была распачатая крымінальная справа.

Супрацоўнікі міліцыі і эксперты знайшлі доказы таго, што да забойства мае дачыненне 21-гадовы сын загінулага, з якім бацька быў у напружаных адносінах. Падазраваны быў затрыманы ў Мінску. Падчас допыту ён прызнаўся ў злачынстве. Растлумачыў, што спачатку забіваць не планаваў. Меў намер толькі скрасці ў бацькі грошы, мяркуючы, што той возіць з сабой буйную суму ў валюце.

Да крадзяжу рыхтаваўся старанна, у Смаргонскі раён з Мінска дабіраўся на спадарожным транспарце, з сабой браў зменную вопратку і пальчаткі. У незамкнёны дом зайшоў каля поўначы 5 чэрвеня, разлічваючы, што бацька спіць. Аднак той пачуў шум і выйшаў насустрач.

Спалохаўшыся наступстваў, сын схапіў сякеру, што была ў хаце, і біў бацьку абухом па галаве два дзясяткі разоў. Потым скраў 900 даляраў, 300 еўра і каля мільёна рублёў.

Затым на бацькавай машыне хлопец паехаў у Мінск ды абшукаў бацькаву кватэру. Не знайшоўшы там грошай, адагнаў машыну назад у Смаргонскі раён і пакінуў у месцы, дзе яе пасля выявілі праваахоўныя органы.

Пазбаўляючыся ад доказаў, сваю зменную вопратку ён спаліў, сякеру выкінуў і зноў на спадарожных машынах вярнуўся ў сталіцу. Хаваца не стаў, каб пазбегнуць падазрэнняў.

Следчыя працягваюць высвятляць абставіны злачынства, вывучаюць асобу падазраванага. Раней да крымінальнай адказнасці ён не прыцягваўся, не працуе і не вучыцца. У момант здзяйснення злачынства быў цвярозы. З санкцыі пракурора яго змясцілі пад варту.

УШ

# У Барысаве затрымалі педафіла

Ён абіраў **сабе ахвяр каля школы** і завабліваў у лес.

13 чэрвеня супрацоўнікі аддзела па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі Барысаўскага РУУС затрымалі 51-гадовага мужчыну па падазрэнні ў здзяйсненні серыі злачынстваў сэксуальнага характару ў дачыненні да малалетніх.

Ад яго дзеянняў улетку мінулага года пацярпелі двое хлопчыкаў 2004 і 2005 гадоў нараджэння. Не выключана, што гэта не адзіныя ахвяры.

Як высветлілі праваахоўнікі, фігурант чакаў дзяцей каля школы ў Барысаве, а затым завабліваў іх у размешчаны непадалёк лясны масіў. Завёўшы дзіця ў адасобленае месца, пачынаў псіхалагічную апрацоўку — прапаноўваў цукеркі, грошы. Каб дзіця маўчала пра здзейсненае, пагражаў, у тым ліку з выкарыстаннем газавага балончыка і нажа.

Падчасператрусу ў затрыманага знойдзены вялікі аб'ём — каля 6 гігабайтаў — парнаграфічных відэа і фота з удзелам непаўналетніх. Ёсць сярод іх і матэрыялы яго ўласнага вырабу. Акрамя таго, у затрыманага канфіскаваны пнеўматычны пісталет, газавы балончык і нож. У дачыненні да мужчыны распачатая крымінальная справа. Яму пагражае да 15 гадоў пазбаўлення волі.

УШ




# Экс-старшыня «Беллегпрама» атрымаў 10 гадоў

Прысуд быломy кіраўніку, якога **абвінавачвалі ў хабары**, быў агучаны 17 чэрвеня.

Былы старшыня канцэрна «Беллегпрам» Міхаіл Сучкоў быў асуджаны гродзенскім абласным судом да 10 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці і штрафам у 63 мільёны рублёў.

Акрамя таго, Сучкоў на пяць гадоў пазбаўлены права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых абавязкаў.

Нагадаем, Следчы камітэт распачаў крымінальную справу ў дачыненні да яго і дырэктара ААТ «Слонімская камвольнапрадзільная фабрыка» Валянціны Вянскоўскай у лютым 2014 года. Службовыя асобы з тых часоў знаходзіліся пад вартай. Віталь Разоўскі, намеснік дырэктара гарадзенскага ТАА «Флексамір», правёў пад вартай толькі паўгода, але справа ў дачыненні да яго таксама разглядалася.

Па версіі абвінавачвання Міхаіл Сучкоў хацеў атрымаць хабар у мільён еўра дзякуючы мадэрнізацыі прадпрыемства «Сукно», якое ўваходзіла ў склад «Беллегпрама». Пасярэднікам, які павінен быў знайсці пастаўшчыка абсталявання і паклапаціцца пра мільён еўра «адкату», была прыватная кампанія «Флексамір». Да таго ж Сучкоў, па словах пракурора, за кошт пастаўшчыка двойчы адпачываў з сям'ёй за мяжой: у Германіі і на Канарах. Абедзве паездкі следства вызначыла часткай хабару, які так чакаў Сучкоў. Але той самы мільён былы кіраўнік усё ж не атрымаў — па версіі следства, не паспеў, бо быў затрыманы.

А Вянскоўскую абвінавачвалі ў тым, што, пры закупках абсталявання праз «Флексамір», яна рабіла выгляд, што вырашае, у каго абсталяванне будзе куплена. За свае «паслугі» яна прасіла 3% ад кошту станкоў — гэта 36 тысяч еўра.

Валянціна Вянскоўская была асуджаная да 6,5 гадоў пазбаўлення волі з адбыццём пакарання ў калоніі агульнага рэжыму і канфіскацыяй маёмасці. Віталь Разоўскі — да 4 гадоў абмежавання волі.

УШ

# У аварыі пад Валожынам разбіўся вядомы доктар



Загадчык аддзялення 9-й сталічнай бальніцы Яўген Сантоцкі загінуў у ДТЗ 14 чэрвеня. Лабавое сутыкненне здарылася а 18.00 на трасе М6 каля вёскі Пяршаі Валожынскага раёна.

Паводле папярэдняй інфармацыі, Сантоцкі на «Міцубісі» не справіўся з кіраваннем, выехаў на паласу сустрэчнага руху і сутыкнуўся з фурай «Рэно».

У выніку ДТЗ доктар ад атрыманых траўмаў памёр на месцы здарэння.

Яўген Аганесавіч узначальваў 2-е хірургічнае аддзяленне анестэзіялогіі і рэанімацыі. Сантоцкаму было 37 гадоў, у яго засталася сям'я і 9-гадовае дзіця.

УШ



Яўген Сантоцкі.

# Наступствы непагадзі: 1000 населеных пунктаў без святла і згаслы Вечны агонь

17 і 18 чэрвеня рэзка пагоршылася надвор'е: з-за шквалістага ветру нават пацярпелі людзі. За гэты час агулам былі абясточаныя 1046 населеных пунктаў.

У Мінску вецер паваліў дрэва, якое ўпала на пенсіянера. Той выжыў, але быў шпіталізаваны. У Гродне з даху будынка сарвала ліст шыферу — атрымала траўму нагі жанчына.

У вёсцы Ваўкалаты Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці вецер паваліў дрэва на легкавы аўтамабіль, які ехаў міма. Кіроўцу прыйшлося выцягваць з машыны з дапамогай МНС (праўда, абышлося без траўмаў). Агулам зафіксаваныя 184 выпадкі (Брэст — 40, Гродна — 126, Мінск — 18) падзення дрэў, у выніку якіх пашкоджаныя 20 легкавых аўтамабіляў і аўтобус у Брэсце.

Асабліва ад ветру пацярпелі гродзенцы. У Гродне спыняўся рух грамадскага транспарту праз пашкоджанні на лініях электраперадач. На старажытным Бернардзінскім касцёле вецер сагнуў крыж на званіцы. А ў парку Жылібера нават згас Вечны агонь — на месца давялося выклікаць супрацоўнікаў газавай службы.

УШ

## Сцісла

### «Палімір» гарэў тры дні

18 чэрвеня на наваполацкім «Паліміры» адбылося ўзгаранне на газаразмеркавальнай устаноўцы ў цэху №104. Вышыня факела складала 4 метры. Пажар лакалізавалі, але згасіць, пакуль ва ўстаноўцы не выгараў увесь газ, не змаглі. Пра ліквідацыю пажару было абвешчана толькі раніцай 20 чэрвеня. Пацярпелых няма, прычына здарэння высвятляецца. Пажар пашкодзіў абсталяванне, была спынена вытворчасць поліэтылену.

### Перавыхаваць сякеркай

70-гадовая бабуля з Гродна вырашыла, што пляменніца настройвае сваякоў супраць яе і вырашыла гэта выправіць з дапамогай кухоннай сякеркі. Старая нанесла каля 15 удараў па галаве, але дзяўчына выжыла. А бабулі цяпер пагражае да 15 гадоў.

### Замініраваў па пошце

60-гадовы пенсіянер з Магілёва даслаў у мясцовы гандлёвы цэнтр ліст з абразамі і пагрозамі выбуху. Наведнікаў эвакуявалі, але трывога была лжывай. «Мінёра» знайшлі, яму пагражае ад штрафа да 5 гадоў.

### Загінула дзіця

У Докшыцкім раёне 3-гадовая дзяўчынка раптоўна выбегла на дарогу і трапіла пад машыну. Дзіця загінула на месцы.

УШ

# Эльжбета Смулкова: Беларусы —

Мы кажам: «Чалавек эпохі Адраджэння», «творца эпохі Асветніцтва». Эльжбета Смулкова — такі «чалавек ХХ стагоддзя», стагоддзя таталітарызмаў.

Многа хто пазнае ў ёй сябе, ці сваю маму, ці сваю бабулю.

Яна была за валасок ад смерці ў высылцы. Яна крала па жменьцы збожжа, выносіла ў ботах з калгаса, каб выжыць. Яе 10-гадовай сястры сібірскія гопнікі парэзалі твар нажом толькі таму, што прынялі за яўрэйку. Яе бацьку саветы забілі.

А яна пасля гэтага пекла здолела здабыць адукацыю, выбіцца ў вялікія навукоўцы. Перажытае сфарміравала яе як чалавека, як інтэлектуала, як гуманістку. І як хрысціянку, якая не трымае зла, але моўчкі прысягнула дзейнічаць, каб дабро на Зямлі перамагала.

Так супала, што менавіта такі чалавек стаў найлепшым у Польшчы знаўцам беларускіх дыялектаў.

Калі пачалася «Салідарнасць», яна падтрымала яе.

Калі ўлада памянялася, «Салідарнасць» упрасіла яе стаць першым паслом Польшчы ў Беларусі.

Дыпламатычная кар'ера была толькі эпізодам у доўгім жыцці, у якім Смулкова — як чалавек, а не як дыпламат — усімі даступнымі ёй спосабамі дапамагала беларусам і беларускам, выхаду кніг, газет, рабоце навукоўцаў. Яна рабіла ўсё гэта непублічна, не дзеля самасцвярджэння. Калісьці пра гэта можна будзе сказаць больш.

Сціплая і светлая, прафесарка Эльжбета Смулкова адзначае сваё 85-годдзе. У такія гады жадаюць найперш здароўя. У выпадку спадарыні амбасадаркі пажадаем ёй яшчэ пабачыць новы паварот гісторыі нашага рэгіёна — паварот да лепшага.

Прапануем вашай увазе ўрыўкі паводле кнігі «Пані Эльжбета. Гісторыя адной прыязні», якую напісаў Валер Каліноўскі.



**Эльжбета Смулкова**

(нар. 1931 у Львове) выдатная польская славістка, якая кіравала кафедрай беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта і кафедрай беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку, была першым паслом Польшчы ў Беларусі. Беларускіх каранёў яна не мела. Беларускай мовай і культурай зацікавілася ў канцы 1950-х, удзельнічала ў дыялекталагічных даследаваннях Падляшша і розных рэгіёнаў Беларусі.

* * *

Эльжбета Смулкова нарадзілася 24 чэрвеня 1931 года ў Львове ў сям'і настаўніцы Яніны Баран і інжынера-лесніка Казімежа Барана.

У ноч на 23 сакавіка 1940 года ў львоўскую кватэру сям'і Баран прыйшлі людзі ў форме. Тады Эльжбета Смулкова апошні раз бачыла свайго бацьку, Казімежа Леана Барана, намесніка кіраўніка Дырэкцыі дзяржаўных лясоў у Львове. Потым ад яго не было ні весткі, ні знаку.

Толькі ў 1995 годзе дочкам Казімежа Барана ўдалося знайсці бацькава прозвішча ў апублікаваным «Украінскім спісе» катынскіх ахвяраў на аркушы 72/2 пад нумарам 91.

* * *

Яніну Баран з 10-гадовай і 7-гадовай дочкамі 8 чэрвеня 1941 года прывезлі адбываць 20-гадовую (!) ссылку ў спецпасяленне Усць-Сільга Каргасоцкага раёна Новасібірскай вобласці. Гэта Нарымскі край — край Сібіры.

* * *

Яніна Баран пасля падпісання дамовы Сікорскага—Майскага зімою 1942 года хадзіла ў райцэнтр Каргасок, каб атрымаць дазвол туды перасяліцца — 60 кіламетраў у адзін бок пешшу пры 36 градусах марозу. На 30-м кіламетры можна было зайсці ў пастаялы двор, дзе покатам у вопратцы ляжалі падарожнікі і дзе можна было выпіць кіпню.

«За зіму хадзіла так тройчы. Два разы сама адна. На саначках цягнула за сабою правіянт. У такой дарозе перажываеш за два дні больш, чым у Львове за цэлы год і болей»,— пісала Яніна Баран.

* * *

«У пасёлку Усць-Сільга ў нас было яшчэ нешта, што можна было выменяць на прадукты. Жылі сціпла, але не галадалі. Галадалі мы ў Каргасоку, дзе знаходзіліся амаль два гады, а потым у Томску,— згадвае пані Эльжбета.— Былі такія моманты, калі на дзень мы мелі па адной нішчымнай бульбіне з уласнага гароду. Ну і давалі хлеб на карткі. 400 грамаў на дзень для працоўнага і па 200 грамаў для нас, для дзяцей. Гэта многа, калі ёсць нешта да хлеба, але калі гэта ўся ежа — то гэтага вельмі мала.

Голад так запомніўся, што я і цяпер не магу быць ні хвіліны галоднай. Нешта ў арганізме запісалася»,— згадвае Эльжбета Смулкова.

* * *

Маці пайшла да стаматолага, зняла дзве залатыя каронкі, якія мела на зубах, і пайшла ў краму, дзе за тое золата можна было купіць муку, малочны і яечны парашкі. Калі яна прынесла гэтыя прадукты дадому, дзеці не маглі нарадавацца, успамінае пані Эльжбета.

«Памятаю нашу радасць, хоць яна не адразу сказала, адкуль гэта ўсё ўзялося. Яна гэтае золата абмяняла, але пярсцёнак, які застаўся ад бацькі, не здала, захавала аж да дня нашага з Віктарам шлюбу».

* * *

«Мы заўважалі высокі ўзровень антысемітызму сярод тамтэйшага насельніцтва, у прыватнасці, падлеткаў. Калі мы хадзілі ў сталоўку на абеды, то трэба было зімою праходзіць праз пустку. І там нас часта білі іншыя дзеці, старэйшыя за нас, думаючы, што мы яўрэйкі, а Марылі нават твар парэзалі, нейкім ножыкам ці лязом, добра, што неглыбока».

У 1945 годзе схуднелых Лізу і Мар'ю з мамай перасялілі з Сібіры на Кубань.

* * *

У саўгасе Ліза на вагах узважвала пшаніцу. «А мясцовы брыгадзір, грозны на выгляд, нахіляўся над мною і шэптам казаў: «На карманы, на карманы оставляй». Я прыносіла дадому збожжа ў ботах. Мне было шкада, што маці так не робіць!».

* * *

У 1946 годзе цягнікам, які арганізаваў Звяз польскіх патрыётаў, Яніна Баран з дочкамі нарэшце вярнуліся ў Польшчу.

* * *

Пасля прыходу ў 1989 годзе да ўлады ў Польшчы «Салідарнасці» міністрам замежных справаў стаў Кшыштаф Скубішэўскі. Пры ім пачалася новая замежная палітыка, якая прадугледжвала выхад з Варшаўскага блоку, з залежнасці ад Масквы.

«Новыя ўлады хацелі падабраць на пасольскія пасады не проста дыпламатаў, а спецыялістаў па гэтых краінах. І так сталася, што мяне ўзялі пад увагу як сур'ёзнага даследніка Беларусі»,— згадвае той момант пані Эльжбета.

Прапанавалі ёй на пасаду кіраўніка дыпламатычнай пляцоўкі ў Мінску Цэнтр усходніх даследаванняў — даследніцкі асяродак заходняга тыпу, think tank, створаны незадоўга да таго, у 1990 годзе, пры Міністэрстве замежнаэканамічнай супрацы спецыяльна для вывучэння краін на ўсход ад Польшчы.

Пасля паўгода падрыхтоўкі на штодзённых курсах у МЗС Польшчы Эльжбета Смулкова ў верасні 1991 года паехала ў Беларусь.

* * *

Незалежнасць Беларусі першаю ў свеце вітала Польшча — гэта сталася 31 жніўня, калі Сойм Польшчы ўхваліў спецыяльную пастанову.

* * *

Гэта быў пазітыўны перыяд у дачыненнях Варшавы і Мінска.

У Беларусі ў той час пабывалі ўсе прэм'еры і міністры замежных справаў Польшчы, якія часта мяняліся, маршалкі Сойму, многія галіновыя міністры, у тым ліку абароны, унутраных справаў, культуры, адукацыі. У якасці кіраўніка Вярхоўнай кантрольнай палаты у Беларусь прыязджаў будучы прэзідэнт Польшчы Лех Качынскі.

Найбольш яскравым з усіх быў прыезд у Беларусь з афіцыйным візітам прэзідэнта Польшчы Леха Валэнсы 28—29 чэрвеня 1993 года.

Леха Валэнсу ў Беларусі прымалі вельмі цёпла. Людзі выходзілі на мінскія вуліцы з транспарантамі й польскімі сцяжкамі. Вясковыя жанчыны выносілі яму пірагі, а вернікі каля заслаўскага касцёла кідалі яму пад ногі кветкі.

Пані Эльжбета прыгадвае пазітыўную атмасферу таго візіту: «Леха Валэнсу ў часе яго візіту ўспрымалі ў Беларусі як блізкага чалавека, рабочага, і ён гэтаксама ставіўся да людзей. Падчас візіту ў Беларусі ён быў вельмі адэкватным, цікавіўся Беларуссю, крыху сапраўды пазнаёміўся з ёю і потым адпаведна гаварыў пра Беларусь у Польшчы. Прытым ён у такой натуральнай гутарцы, за чаркай, мог нашмат больш сказаць беларускім кіраўнікам. Сярод іншага я была вельмі радая,



**Падчас афіцыйнага прыёму ў Мінску з нагоды візіту Леха Валэнсы (1993). Стаяць: Вячаслаў Кебіч, Станіслаў Шушкевіч, Лех Валэнса, Смулкова, Данута Валэнса.**

# ісцінна добрыя людзі

што ён па-мужчынску пагаварыў з міністрам замежных справаў Беларусі Пятром Краўчанкам, з якім мне бывала нялёгка».

Пані Эльжбета была знаёмая з Валэнсам з часоў «Салідарнасці» і заўсёды мела пра яго добрую думку як пра чалавека, які разбурыў камунізм. Можа, часам не зусім добра падрыхтаванага да выканання прэзідэнцкіх абавязкаў, але шчырага і з выдатнай інтуіцыяй.

Перакладчыкам Леха Валэнсы ў той паездцы быў вядомы гісторык польскі беларус Алег Латышонак, таксама былы актывіст «Салідарнасці».

Алег Латышонак прыгадвае: «Тады якраз амерыканцы збамбардавалі Багдад. І журналісты пачалі пытаць як спадара Шушкевіча, так і прэзідэнта Валэнсу, як яны ставяцца да гэтага факта. Спадар Шушкевіч адказаў, што ведае столькі, колькі перадае тэлебачанне, дык нічога не скажа. А прэзідэнт Валэнса кажа: «A ja powiem...» [А я скажу]. Пярэпалах у яго атачэнні — што ён скажа. Бо прэзідэнт Валэнса быў вядомы тым, што можа нешта нечаканае сказаць, і да таго ж быў пострахам усіх перакладнікаў, якія ніколі не ведалі, што трэба будзе перакладаць.

Прэзідэнт Валэнса вельмі доўга гаварыў, і яго думка была такая, што павінны быць нейкія міжнародныя ўзброеныя сілы, якія б у выніку міжнародных пагадненняў наводзілі б парадак. Але так гэтую думку шырока ілюстраваў рознымі прыкладамі, што нарэшце дайшоў да такога сказу, які я запомню на ўсё жыццё.

Ён сказаў: «Bo taki Indianin w rezerwacie zrzuci portki, skoczy przez płot, i jemu nic. A nas by komary zagryzły» [Бо індзеец у рэзервацыі скіне штаны, скочыць цераз плот, і яму хоць бы што. А нас бы камары заелі.]. Я думаю: «О Божа!». Перакладаць, не перакладаць?

Пачынаю перакладаць, і замест таго каб «w rezerwacie» перакласці «у рэзервацыі», то сказаў «у рэзервуары», і ўся зала смяецца. А я не разумею, чаму смяюцца. Беларускі перакладнік падказаў: «У рэзервацыі...»

А вынік усяго гэтага быў такі, што прэзідэнт Валэнса на канец сказаў, што кепска было б, каб нехта адчуў сябе жандарам свету, і ўсе журналісты пабеглі падаваць вестку, што прэзідэнт Валэнса скрытыкаваў амерыканцаў. Я дачакаўся толькі, што ў прэсе напісалі: відаць, прэзідэнт сказаў нешта, а пэўне ж, перакладнік меў кепскі дзень».

* * *

Эльжбета Смулкова была першым амбасадарам замежнай дзяржавы ў Мінску, які свабодна гаварыў на беларускай мове, што выклікала прыязную рэакцыю беларусаў, расцэнвалася як знак салідарнасці з маладой краінай і падтрымкі нацыянальнага адраджэньня. Пазней з пані Эльжбеты ўзялі прыклад амбасадары ЗША Джордж Крол (н. 1956) і Швецыі — Стэфан Эрыксан (н. 1962), якія таксама вывучылі беларускую мову і карысталіся ёю публічна.

* * *

Нагодай для расчаравання стаўся рэферэндум 1995 года аб змене дзяржаўнай сімволікі і наданні дзяржаўнага статусу расейскай мове. Гэта была апошняя электаральная кампанія, за якою сачыла пані Смулкова ў якасці амбасадара: «Праблема рэферэндуму аб мове для мяне была вельмі балючай як для моваведа і як для асобы, якая працуе ў Беларусі, з дзвюх розных прычын. Па-першае, я бачыла, што пытанні былі хітра сфармуляваныя, з яўнай падказкай, самі пытанні і перадвырашылі адказ. А па-другое, выявілася, што вельмі блізкія мне людзі былі радыя вынікам гэтага рэферэндуму — людзі, для якіх расейская мова была роднаю. Я гэта асабіста перажывала як крызіс сяброўства. Думала, як можа гэтая жанчына не бачыць, наколькі гэта шкодна для народа, яна ж разумная, добрая, сумленная, а мову яна толькі расейскую хоча і ўсё... І гэта не было асобным фактам, я памятаю, як ва ўніверсітэце многія някепскія людзі былі незадаволеныя папярэдняй палітыкай беларусізацыі».

* * *

«Адно з наймацнейшых перажыванняў на тэму мовы было, калі нейкі дзядзька сварыўся пры мне на Зянона Пазняка. Гэта было на мітынгу ля помніка Багдановічу ў Мінску. Я стаяла даволі далёка ад Пазняка і ўбачыла, як да яго падбег нейкі чалавек гадоў за 50 і звярнуўся да яго на «ты»: «Слухай, што ты робіш? Знаеш, колькі я сілы ўклаў, каб вывучыць рускую мову, калі прыехаў у Мінск з вёскі? Знаеш, як з мяне смяяліся, што я гаварыць не ўмею?.. А ты цяпер хочаш, каб мае дзеці і ўнукі зноў уваходзілі ў гэтую дзеравеншчыну і зноў вучыліся па-беларуску? Не будзе гэтага!»

Для мяне як для моваведа гэта было вельмі важна чуць, разумець прычыны супраціву народу перад беларушчынай. Думаю, можа лепей было б, каб больш спакойна ўводзілі беларускую мову і рабілі гэта людзі добра падрыхтаваныя. Але калі б не было развароту моўнай палітыкі ўжо пры Лукашэнку, то, думаю, зробленае раней з цягам часу пачало б дзейнічаць, нават з памылкамі, якія былі ў БНФ. А пасля таго, што ёсць цяпер, пры наступных спробах беларусізацыі будзе, несумненна, цяжэй».

* * *

Адзіная даўжэйшая размова амбасадаркі Польшчы Эльжбеты Смулковай з Аляксандрам Лукашэнкам адбылася падчас афіцыйнай сустрэчы з нагоды заканчэння яе дыпламатычнай місіі ў 1995 годзе.

Пані Эльжбета звярталася да Лукашэнкі па-беларуску, ён таксама стараўся адказваць на беларускай мове.

У часе размовы пра ўнутраныя беларускія справы пані амбасадар сказала Лукашэнку: «Я веру, што вы хочаце дабра для народа, але метады, якімі вы рэалізуеце сваё жаданне, часта непрымальныя».

Пры гэтым пані Эльжбета заўважыла, як збялеў Цапкала [намеснік міністра замежных спраў], але Лукашэнка спакойна глянуў у адказ і сказаў: «Ну так, усе могуць памыляцца».

«Я ацаніла адказ як добры выхад з сітуацыі, які сведчыць, што гэты чалавек — не такі ўжо калхознік, як гэта некаторым тады падавалася».

* * *

«Мяне вельмі мучыла ў Беларусі, што многа людзей падазравалі нас, палякаў, Польшчу, у тым, што мы хочам вярнуць Львоў, Горадню і Вільню. Часам рабілі з мухі слана — выцягвалі нешта дробнае, што не мела ніякага значэння, і рэагавалі так: «А, дык, значыць, вы хочаце забраць Львоў, Горадню ці Вільню». Але гэта няпраўда. Нашая моладзь ужо абсалютна гэтым не цікавіцца. Польшча не дае ніякіх падставаў для таго, каб у Беларусі і Украіне, а таксама ў Літве ўзнікалі такія думкі. Нацыянальны інтарэс Польшчы, дзяржаўны інтарэс, палягае ў тым, каб не чапаць межаў. Бо калі мы будзем думаць пра ўсход, то трэба немцам аддаць захад».

* * *

«Паводзіны людзей залежаць ад розных фактараў, ад сямейнай сітуацыі ў тым ліку. Калі б мой муж Віктар Смулэк быў іншы, я б гэтага ўсяго не зрабіла. Колькі ён мне дапамог! Нашая сувязь абапіралася на глыбокім даверы і ўзаемнай дапамозе».

Муж пані Эльжбеты Віктар Смулэк, спецыяліст у ядзернай хіміі, які з 1952 года ўносіў у яе жыццё дабрыню і спакой, памёр 13 красавіка 2015 года пасля цяжкай хваробы.

* * *

«Вельмі многае залежыць ад акалічнасцей, у якіх чалавек пазнае новае».

Эльжбету Смулкову да вывучэння беларускай філалогіі падштурхнула прафесарка Галіна Турская.

«Факт, што яна мяне накіравала ў гэты бок, бо я мела вялікую павагу да гэтай жанчыны, да яе лёсу. Гэта быў адзін з найцікавейшых людзей, якіх я сустрэла як студэнтка. Яе выжывалі з універсітэта, у яе было некалькі інфарктаў... І менавіта яна скіроўвае мяне на Беласточчыну, і я еду з перакананнем, што павінна там нешта цікавае знайсціся, вартаснае, бо інакш яна мяне туды не пасылала б.

Для мяне ўсё там, на Беласточчыне, было новае: і лад жыцця людзей, і тое, што там з аднымі я магу гаварыць па-польску, а іншыя не надта мяне разумеюць.

Я не толькі магнітафон насіла з сабою, а і цэлую аптэчку. Колькі я там ног абмыла і перавязала! У многіх вясковых жанчын тады была нейкая экзэма на нагах...

Я пабачыла, што гэтыя людзі ісцінна добрыя.

Калі і былі паскудствы з боку беларусаў, то ад беларусаў больш высокага ўзроўню. А просты чалавек ніколі мне нічога кепскага не зрабіў ані ў Беларусі, ані на Беласточчыне. Для мяне ўсё было як для польскага пісьменніка Тадэвуша Канвіцкага, які напісаў знакамітыя радкі: «Беларусь— Дабрарусь».



Папа Ян Павел II і Эльжбета Смулкова.



Падчас сустрэчы Леха Валэнсы і Зянона Пазняка.



Афіцыйнае фота падчас уручэння даверчых грамат. Сядзяць: Смулкова, Станіслаў Шушкевіч, Пётр Краўчанка, тагачасны міністр замежных спраў.

# Лявон Вольскі: У мяне з маёмасці цяпер толькі хата ў вёсцы

Зрабіць вялікае інтэрв'ю з Лявонам Вольскім мы [Еўрарадыё] спрабавалі некалькі разоў цягам года. Лявон быў ці то заняты, ці то «пакуль няма асабліва пра што расказваць, але — хутка, бо мы тут з Анечкай такое задумалі»... А потым здарылася трагедыя: 23 сакавіка з жыцця пайшла Ганна Вольская. Мінула некалькі месяцаў, і на асцярожнае пытанне быў адказ: «Давайце пагаворым, чаму не? Я збольшага ўжо ачуняў. Можам размаўляць на любыя тэмы...»

Сустрэчу прызначаем у сярэдзіне дня ў вулічнай кавярні ў цэнтры Мінска. «Я ў цэнтры рэдка бываю, неяк даўно не гуляў тут пешкам, іду да вас цяпер і не пазнаю горад: кавярняў столькі, на вуліцы розныя парасончыкі», — дзеліцца ўражаннямі Лявон. А мы ў сваю чаргу цікавімся, як ідзе збор сродкаў на новы альбом, чаму працэс крыху запаволіўся і колькі неабходна сабраць.

— Я так разумею, што асноўная маса аматараў маёй творчасці ўжо зрабіла свой унёсак. Прычым былі розныя сумы: ад пяці даляраў і да... не буду казаць, да якіх сум у еўра. Праўда, і цяпер па адным-два чалавекі ў дзень дасылаюць грошы. Справа, як мне падаецца, не ў адсутнасці цікаўнасці, я нават здзіўлены, што такі высокі адсотак ад неабходнай сумы сабралі (за тры месяцы, з сярэдзіны сакавіка да 16 чэрвеня, — 86% ад патрэбнай сумы. — Еўрарадыё). Баяўся, што будзе адсоткаў 25 — і на гэтым усё спыніцца. Цяпер не самы лепшы перыяд для розных ахвяраванняў, але людзі ўсё адно адрываюць ад сябе свае крэўныя. Значыцца, яны хочуць пачуць гэта. Называць неабходную суму я не хачу. Адно скажу, яна і не вялікая, але і не маленькая. Але ж новы альбом — гэта не толькі запіс у студыі, а яшчэ і кліпавая падтрымка, і прасоўванне, і іншае. І ўсё патрабуе грошай, бясплатна ніхто нічога не робіць. Я гэтага і не прапаную, за ўсё, што людзі робяць прафесійна, яны павінны атрымліваць грошы.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Падыходзяць людзі на вуліцы, кажуць: «Дзякуй, што вы ёсць, я вырас на вашых песнях і дзякуючы ім стаў нармальным, прыстойным чалавекам»**

### Спрабаваў пісаць асобныя песні з «Грамадзянаўства» ў айчыннай студыі з нашымі музыкамі — нейкі тупік, самапаўторы, вяртанне да N.R.M.

**— Я ўпэўнены, што знайшлася б і ў Мінску як мінімум адна-дзве студыі, якія б з задавальненнем запісалі вам альбом бясплатна…**

— І на мяне выходзілі з такой прапановай. Але на дадзены час у мяне ёсць каманда, з якой я працую, яна знаходзіцца ў Вільні. Яны нарвежцы. І ёсць прадзюсар Снорэ. Я вельмі задаволены тым, што атрымалася ў выніку нашай папярэдняй працы — альбома «Грамадзянаўства». І я спадзяюся, што гэты альбом будзе яшчэ лепшым па гуку. Тым больш ён будзе не толькі грамадска актыўным, але «шырокафарматным». На альбоме 16 песень, а гэта не жарты! Па шчырасці, я спрабаваў пісаць асобныя песні з «Грамадзянаўства» ў айчыннай студыі з нашымі музыкамі — нейкі тупік быў, самапаўторы, вяртанне да N.R.M. Паратункам стаў менавіта Снорэ са сваім бачаннем гучання: лаканічным, без сола, часта песня пачынаецца з тэксту, без уступу, як гэта прынята ў поп-музыцы. У адрозненне ад «Грамадзянаўства», новы альбом больш паэтычны. Той быў такім «змагарскім» — канстатацыя фактаў, досыць усё проста сказана. Дарэчы, назву «Грамадзянаўства» прыдумала Анечка. Думалі-думалі, пакуль на вочы падручнік дачкі не трапіўся. І цяпер з назвай цэлая праблема... Магчыма, бліжэй да рэлізу прыйдзе азарэнне. Бачу, хочаце спытацца пра дату выхаду альбома, але сёння я вам яе не назаву — восенню. А калі ўсё пойдзе добра, то ў кастрычніку зладзім канцэрт у Вільні.

### У цэнтры, куды хадзіла Ганна, ёй сказалі, што гэта ніякая не анкалогія

**— Ваша асабістая трагедыя, смерць жонкі, паўплывала на настрой альбома?**

— Песні, у большасці, былі напісаны да гэтага... І я змяніў толькі пару радкоў у некалькіх песнях. Атрымалася, што спакойныя, напалову акустычныя песні там чамусьці досыць дэпрэсіўныя, а цяжкія і хуткія — наадварот, не дэпрэсіўныя. Не ведаю, чаму так атрымалася... Хаця на той момант у мяне не было ніякіх сумных прадчуванняў, усё быццам бы ішло нармальна... Таму я не ведаю, чаму я накрэмзаў такі дэпрэсняк. Можа, нешта такое было ўнутры... Бо яшчэ ўзімку нічога не ўказвала на тое, што штосьці здарыцца.

У нетрадыцыйным цэнтры, куды яна хадзіла, ёй сказалі, што гэта ніякая ні анкалогія, а нешта... мастапатыя ў кепскай форме. Трэба піць гэта і гэта. Яна, безумоўна, у гэта паверыла. І я таксама. Лячылася галаданнем, прымочкамі, рознымі нетрадыцыйнымі метадамі. Можа, таму так хутка ўсё і адбылося. І, можа, гэта да лепшага, бо я ведаю, што людзі гадамі ляжаць у ложку, хварэюць і адыходзяць паступова. Для мяне гэта, безумоўна, горш, бо было так нечакана, што проста жах. Калі мой бацька доўга хварэў, па лякарнях ляжаў, то ты маральна ўжо цягам гэтага часу рыхтуешся да непазбежнага, а тут усё было так... Я і цяпер яшчэ да канца не выйшаў з гэтага шокавага стану, але першы месяц усё было як у тумане — шок быў сур'ёзны. Пастаянна розныя думкі, якія неабходна гнаць ад сябе. Але ж тут нічога не зробіш — гэта чалавечая існасць. Добра, што былі людзі, і гэта шмат людзей, якія мяне маральна падтрымалі. Але ж я ўсё адно разумею, што цяпер мне давядзецца карэнным чынам змяняць усё. Бо я прызвычаіўся да пэўнага жыццёвага сцэнару, які шмат гадоў быў вось такі. А цяпер ён такім не можа быць. І мусіць мяняцца той сцэнар, хай не ў лепшы, але ў нейкі іншы бок, нейкі адэкватны. А не тое, што я вярнуся назад у 1990-я і буду займацца, як гэта ўжо было, рознай лухтой: непатрэбнымі праектамі, удзелам ва ўсіх магчымых канцэртах і імпрэзах. Непатрэбнай мітуснёй. Вельмі добра, што ў апошнія гады мы навучыліся перабіраць, дзе трэба ўдзельнічаць, а дзе — не. За 30 гадоў на сцэне выпрацавалася пэўная інтуіцыя.

**— У вас быў падзел абавязкаў: вы пішаце песні, Ганна — займаецца адміністрацыйнай працай. Як будзеце цяпер спраўляцца?**

— Яна не любіла ўсю гэтую адміністратарскую працу, але вымушаная была ёй займацца. Для мяне ўсё гэта, асабліва грашовыя пытанні, — цяжкая тэма. Але давядзецца ёй займацца пакуль самому. Можа, потым хто дапаможа... Цяпер для мяне цяжэйшая не адсутнасць персанальнага менеджара, а адсутнасць прадзюсара. Анечка была таленавітая ў стратэгіі — яна прыдумляла акцыі, перавод усёй канцэртнай дзейнасці ў Вільню... Цяпер усім гэтым давядзецца самому займацца. Ганна была заточаная пад мае праекты, і мне прадзюсары звонку наўрад ці дапамогуць.

### Цяпер у мяне з маёмасці толькі хата ў вёсцы. Я зноў пазычыў грошы і раблю там карэнную перабудову, думаю там прапісацца і жыць

**— Людзі, якія не ведаюць жыцця беларускіх рокераў знутры, здзіўляюцца: «Такі вядомы музыкант, як Лявон Вольскі, столькі гадоў на сцэне, па свеце з канцэртамі ездзіць, а ў яго няма грошай ні на альбом, ні на шыкоўную кватэру?»**

— Кватэры няма ўвогуле — мы восем гадоў здымаем кватэру. Мне ў спадчыну засталася кватэра ад бабулі, але быў такі перыяд у жыцці, калі мы былі вінныя грошы, якія я ў свой час пазычыў на запіс першага альбома «Крамбамбулі», і тую кватэру давялося прадаць. Прычым прадавалі мы яе ў вельмі неспрыяльны час, і праз год такая кватэра каштавала разоў у 4—5 даражэй. Канцэртамі ў Еўропе ты таксама шмат не заробіш: ты ж не будзеш там пастаянна з турамі ездзіць — гэта нейкія разавыя выезды. Ды і акупляюцца такія паездкі... Вывезі паспрабуй поўны склад «Крамбамбулі»! А чаму так і не назапасіў грошай... Бо амаль усё заробленае ішло не на набыццё кватэры ці шыкоўнай машыны, а на запісы альбомаў, прома, кліпы... У нас жа няма ў краіне якога сур'ёзнага прадзюсарскага цэнтра, які б усё гэта браў на сябе. Ды і адкуль ён возьмецца?! Калі тут няма самой сістэмы так званага шоу-бізнэсу! Мы ж не можам ехаць з турам па ўсёй Беларусі, як гэта робяць калектывы на Захадзе. У нас сама пабудова айчыннага шоу-бізнэсу не дазваляе незалежнаму артысту так жыць. Так што цяпер у мяне з маёмасці толькі хата ў вёсцы. Я зноў пазычыў грошы і раблю там карэнную перабудову, думаю там прапісацца і жыць. Але як яно далей складзецца... Я чатыры месяцы таму вызваліў чэрвень ад усіх спраў, каб паехаць на месяц у Чарнагорыю, а бачыце, як яно склалася. І цяпер я нейкія далёкія планы не хачу складаць.

**— Калі ўжо згадалі «Крамбамбулю»… Няўжо мы больш не пачуем новых песень гэтага праекта?!**

— Магчыма, некалькі песень з нагоды чаго-небудзь і з'явіцца, але альбомаў больш не будзе дакладна. Гэтая стылістыка сябе вычарпала. У гэтым праекце асабліва няма чаго больш сказаць — там усё ўжо было! Гумар і сатыра, іронія, нават пара сур'ёзных песень, апошні блазенска-партызанска-ваяўнічы альбом. Розныя песні былі: з Міхалком, Кулінковічам, Гюнэш. Ну, куды рухацца, у якім накірунку? Тым больш, быць немаладым блазнам — таксама не вельмі прыемная роля. І спяваць там, да прыкладу, «Старых хіпаноў» не вельмі хочацца.

Гэтак жа, як цяпер мне зусім не пасуе песня «Я рок-музыкант» — яна зусім без нюансаў. І гэта ж быў маладзевы маніфест, а я не такая ўжо моладзь малада.

### Ёсць такія наіўныя арганізатары, якім кажаш, што мы забароненыя, а яны: «Ну, давайце ўсё ж паспрабуем»

**— Некаторыя лічаць, што Вольскі сам адмаўляецца ад канцэртаў у Беларусі, бо яму выгадней быць забароненым…**

— Ёсць такія наіўныя арганізатары, якім кажаш, што мы

забароненыя, а яны: «Ну, давайце ўсё ж паспрабуем». І заканчваецца ўсё заўсёды аднолькава — забаронай. Ёсць, да прыкладу, за Мінскам адзін забаўляльны цэнтр, я называю яго «цэнтр адтапыркі», дзе праходзяць сяткаванні Новага года, Масленіцы і гэтак далей. Я там неяк выступаў сольна на закрытым карпаратыве, і ўсё прайшло проста супер. І ўладальнікі вырашылі гэтай зімой запрасіць мяне на сваё праграмнае мерапрыемства кшталту Масленіцы. Паставілі афішу ў інтэрнэт, запусцілі рэкламу ў фэйсбуку, і людзі пачалі «рэгіцца» на тое мерапрыемства — «Бліны і канцэрт Лявона Вольскага». Анечка ім адразу напісала: «Ёсць небяспека, што вас закантралююць». Яны: «Ну, будзем спадзявацца...» Назаўтра ж яны напісалі нам: «Ой, прабачце, нам тут патэлефанавалі і сказалі, каб ні ў якім разе гэтага не было і што спецыяльна прыедуць гэта пракантраляваць». А гэта было звычайнае шараговае мерапрыемства за горадам: бліны, танцы, гулянкі...

**— А раптам якія антыдзяржаўныя бліны ў выніку атрымаюцца!**

— Ну, сапраўды, я згодны — што гэта такое! Таму размова тут не пра нежаданне выступаць, а пра наіўных арганізатараў. Цяпер нават на байк-фэсце не атрымалася выступіць! Прытым што ў часы самых забароненых забаронаў да байк-фэстаў ставіліся паблажліва — гэта ж закрытае мерапрыемства.

## Я не змагар — я проста кажу тое, што думаю

**— Ніколі не было спакусы перастаць быць «змагаром» — глядзіш, і знялі б забарону?**

— Я не змагар — я проста кажу тое, што думаю. А адмовіцца ад сваіх перакананняў... Ну, тады ж нічога не атрымаецца! Не атрымаецца пісаць песні. Проста атрымаецца касіць «бабло». Да ўсяго, калі ты хочаш быць у абойме паспяховых дзяржаўных артыстаў, ты абавязкова мусіш чымсьці ахвяраваць. Выступаць на канцэртах кшталту «За Беларусь», «За сільную і процветаюшчую», «За прэзідэнта»... На гэта я пайсці не магу. Незалежныя артысты не маюць машын, кватэр і такой раскошы, як дзяржаўныя артысты. Хаця, я не ведаю, як яны цяпер зарабляюць, ладна, раней праз прафсаюзы канцэрты рабіліся, але ж цяпер, напэўна, і гэтая лаўка накрылася з-за крызісу?

**— Вось вы ўжо трыццаць гадоў рубіце сваёй музыкай усю гэтую сістэму, а змяніць нічога так і не атрымалася…**

— Вы на балючы мазоль наступаеце... Нешта ўсё ж атрымалася змяніць. Псіхалогію некаторых людзей, якія з юнацтва слухалі. Падыходзяць людзі на вуліцы, кажуць: «Дзякуй, што вы ёсць, я вырас на вашых песнях і дзякуючы ім стаў нармальным, прыстойным чалавекам». Але, праўда, ёсць і іншыя прыклады: слухалі песні, а потым пайшлі працаваць у органы. Ну, і цяпер слухаюць, у прынцыпе... Але ж магло б і горш быць, калі б песні не слухаў, бандытам бы стаў, а так — у органы пайшоў.

## Трэба арандаваць лімузін і прыехаць у Мінкульт, апранутым у футра, з журналістамі, з кветкамі, шампанскім і маленькім сабакам пад пахай

**— Вы ж з пункту гледжання дзяржавы — дармаед, нідзе афіцыйна не працуеце. Што можа вас прымусіць звярнуцца ў Мінкульт па пасведчанне творчага работніка?**

— Я раней думаў, што нішто мяне не можа прымусіць туды пайсці — гэтая ж установа забараняла і забараняе мае канцэрты цяпер. Ну, не яна сама, а па даручэнні з прэзідэнцкай адміністрацыі. Але акурат цяпер мяне напаткала думка: з гэтага ж можна класнае шоу зрабіць! Прыйсці туды, а лепш арандаваць лімузін і прыехаць, апранутым у футра, з журналістамі, з кветкамі, шампанскім і маленькім сабакам пад пахай — яго, як і лімузін, можна арандаваць. А там такія дамы сядзяць — даць ім усім па букецiку, сказаць: «Ведаеце, хто я такі?» Ну, і паглядзім тады, як такога барына не зарэгістраваць. Сумныя такія жартачкі. Бо ў нас такая эксклюзіўная сітуацыя ў сферы культуры, што проста неверагодна. Карацей, наўрад ці мне тое пасведчанне дадуць. Але плаціць ніякі падатак я не збіраюся. І што там за гэта — папраўчыя працы? Ну, вось хай мяне на тыя працы асудзяць. Яшчэ лепшае шоу атрымаецца.

## У нас былі думкі зрабіць дазвол на жыхарства ў Літве

**— Думкі пра эміграцыю ўзнікалі?**

— Натуральна. Ведаеце, колькі такіх роспачных момантаў у жыцці было? Бо апошнія гадоў пяць стала канчаткова зразумела: пры гэтай уладзе ўжо нармальнага музычнага жыцця тут не будзе. Для мяне, прынамсі.

Як у нас было? Жылі мы за мяжой дзе-небудзь: у Вільні, Варшаве, Берліне, у Швейцарыі, у Чарнагорыі выдатна жылі — як на дачу ездзілі. На месяц паедзеш — выдатна, усё ведаеш. А ў Мінску была канкрэтная ўнутраная эміграцыя. Сядзіш дома ў цэнтры горада, з'ездзіў у гіпермаркет які-небудзь, там пахадзіў дзве гадзіны, затарыўся... Прыехаў зноў дахаты, разліў па келіхах французскае віно, сядзіш, глядзіш нейкае кіно. Ну, нешта робіш там... Але не было такога жыцця: мы тусім па цэнтры горада, робім паход па барах — гэта ўсё ў 90-я яшчэ адшумела. І мы жылі ў вельмі замкнёным свеце. Потым з горада едзеш на вёску. Там прырода, хата, камін — усё класна. Сядзіш каля каміна, глядзіш фільмы, разліваеш добрае французскае віно па келіхах і кайфуеш. Такое было жыццё — тыповая ўнутраная эміграцыя. Калі людзі абсалютна не інтэграваныя ў жыццё краіны.

Ад эміграцыі спыніла тое, што... не атрымалася нічога. У нас былі думкі зрабіць дазвол на жыхарства ў Літве. Анечка спрабавала розныя варыянты, але нічога не атрымалася. Бо спачатку вельмі выгадна было мець фірму ў Літве, і яна ў нас была... ці пра гэта нельга казаць? А... ае ўжо няма ўсё роўна. Карацей, Анечка зарэгістравала там фірму, што дае табе права на атрыманне дазволу на жыхарства. Што пазбаўляе цябе ад неабходнасці рабіць візы. Хацелася зняць кватэру ў Вільні і не здымаць у Мінску — у Вільні танней, і пакінуць сабе толькі хату на вёсцы. Апошні год мінская кватэра абсалютна не патрэбная: Адэля вучыцца ў Польшчы, а мы проста сядзелі там — чаго? Ад хаты ў вёсцы да Вільні кіламетраў 130, а з Вільні блізка і да Варшавы, і да Берліна — сеў і паехаў, межаў няма. Але потым літоўцы вельмі раптоўна, амаль як у нас гэта робіцца, змянілі заканадаўства. Па новым заканадаўстве, калі ў цябе ёсць фірма, то ты мусіш браць на працу трох супрацоўнікаў, грамадзян Літвы. А гэта — мінімалка, падаткі і гэтак далей. Карацей, трэба было зачыняцца, і ўся гэтая ідэя накрылася медным тазам.

**— У сённяшняй рок-тусоўцы вы адчуваеце сябе сваім ці чужым?**

— Для кагосьці — свой, для кагосьці — чужы. І так заўсёды было. Хтосьці мне зайздросціць... У нас жа пастаянна беларускія музыкі нешта дзеляць, нягледзячы на тое, што няма прадмету дзяльбы. Пастаянна нейкія плёткі, нейкая зайздрасць. Пра мяне заўжды казалі, што я ўсё пад сябе падгроб. Што падгроб?! Не было што грэбсці! Ну, ідуць людзі на канцэрт, дык што мне ім сказаць, каб не прыходзілі?

## Сорамна за кампрамісы

**— Ёсць нешта са зробленага, за што сёння сорамна?**

— Калі вы пра песні, то, натуральна, ёсць тыя, што не атрымаліся, хаця калі яны пісаліся, то падаваліся выдатнымі. І сёння цікава пераслухоўваць старыя песні. Не сорамна, але, безумоўна, пачатковыя песні «Мроі» страшна недасканалыя. Музычна таксама, але там быў імпэт, а ў тэкстах шмат дзе былі смешныя моманты. Але што саромецца — мы раслі. Сорамна за некаторыя кампрамісныя ўчынкі. Не буду казаць пра паход да Праляскоўскага — казаў ужо неаднаразова. Не трэба было хадзіць, шмат людзей расчаравалася ў нас, а мы ж павінны мець адказнасць за людзей, якія нас слухаюць. Прынамсі, мне не трэба было сунуцца туды...

**— А іншыя — хай сабе ідуць!**

— Натуральна! Калі сур'ёзна, то мы павінны былі памятаць, ідучы туды, пра дзве рэчы: стратэгію і тактыку. Перад паходам трэба было сабрацца і абмеркаваць тэмы, паводзіны, хто за кім што кажа і што ён кажа. А то прыйшлі нейкія раздзяўбаі, адзін аднаго перабіваюць, кажуць адзін — адно, другі — іншае, нейкія пакрыўджаныя. Той паглядзеў, праманіторыў прафесійным вокам: «А, ясна — дзіцячы сад! Хай граюць, ладна!» Думаў, можа, што прыйдуць такія барацьбіты і паставяць пытанне рубам: «Хто, калі і дзе забараняў нашы канцэрты: імёны, час, прозвішчы! І будзем судзіцца, бо гэта незаконна!» Не, схадзіць можна было, але спачатку трэба было скаардынавацца. Сорамна за іншыя кампрамісы. Трэба прасоўваць прадукт, ідзеш на радыё ці тэлебачанне, і заўжды рэдактар ці вядучы крыху дрыжачым голасам кажа: «Ну, вы ж разумееце, што мы не палітычная, а музычная праграма — пра палітыку не будзем?» І ты кажаш: «Ну, калі вы не будзеце, то і я не буду»... А трэба было гнаць адразу праўду-матку! Але каб не было гэтых эфіраў, то, можа быць, і не было б паловы народнай любові...

**— Вы супраць кампрамісаў?**

— Цяпер так. Ну, гуляў я ў гэтыя кампрамісы з тымі ж радыё і тэлебачаннем, і што? Цяпер ні на радыё, ні на тэлебачанне не запрашаюць. Праўда, неяк запрашалі да Гігіна паўдзельнічаць у нейкай дыскусіі. Не бачу ў гэтым ніякага сэнсу.

## Людзям патрэбная свая беларуская музыка, і пры спрыяльных умовах яна сваё возьме

**— У глыбіні душы спадзеяцеся, што вернуцца часы масавай цікаўнасці беларусаў да айчыннага рока? Памятаеце ж, колькі людзей збіралася ў сярэдзіне 1980-х гадоў на фестывалі пад адкрытым небам — дзясяткі тысяч!**

— Калі будзе іншая ўлада і калі будзе нармальнае эканамічнае становішча. Бо, калі гэтая ўлада зменіцца, невядома, што будзе з эканомікай. Будзе нейкая іншая мадэль, і трэба будзе прайсці цяжкі шлях да капіталізму — гэта некалькі гадоў як мінімум. Ведаеце, калі б сёння дазволілі і на якое свята ў горадзе арганізавалі бясплатны рок-канцэрт, то тысяч дзесяць прыйшло б лёгка. Я цяпер часта пешкам хаджу для тонусу...

**— Пазнаюць на вуліцы?**

— Я пра гэта і кажу, цяжкавата хадзіць. Пазнаюць, падыходзяць, ціснуць руку, просяць сфатаграфавацца. І такое не толькі ў цэнтры горада. І гэта пры адсутнасці канцэртнай дзейнасці на Радзіме цягам амаль дзесяці гадоў. Людзям патрэбная свая беларуская музыка, і пры спрыяльных умовах яна сваё возьме.

**Зміцер Лукашук, euroradio.fm**





СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Аляксандр Лукашэнка адкрыў 10-ы Нацыянальны конкурс прыгажосці «Міс Беларусь 2016». У сваёй прамове ён адзначыў высокую ролю жанчыны ў гісторыі Беларусі. Ён узгадаў Еўфрасінню Полацкую, Алаізу Пашкевіч, Настасю Слуцкую. Сёлета «Міс Беларусь» стала мінчанка Паліна Барадачова.**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Брамнік БАТЭ Сяргей Чэрнік «сэлфіцца» з фанатамі пасля разгромнай перамогі над «Крумкачамі» — 5:0. Дарэчы, «Крумкачы» прывезлі ў Барысаў каля 400 чалавек падтрымкі.**



**Навукоўцы назвалі ўладальніцу ідэальнай жаночай фігуры. Ёю стала Кэлі Брук, і ейныя формы далёкія ад мадэльных параметраў. Спецыялісты ўлічылі вагу, рост, форму твару, даўжыню валасоў, узрост і прыйшлі да высновы, што «гэтая дзяўчына па-сапраўднаму натуральная і дасканалая паводле ўсіх параметраў». Кэлі Брук 34 гады. Яе рост складае 168 см, а параметры — 99 — 63 — 91.**



**Лаўрэатам прэміі «За свабоду думкі — 2016» стаў рэжысёр Валер Мазынскі. «У мяне ёсць надзея. Яна, пэўна, не спраўдзіцца пры маім жыцці», — адзначыў у выступе лаўрэат. Па ягоных словах, ён спадзяецца, што пры з'яўленні пагрозы для Беларусі, ўсе беларусы, аб'яднаўшыся, выратуюць краіну. Прэмія імя Васіля Быкава «За свабоду думкі» заснаваная рухам «За свабоду» ў 2008.**



**«Кліўленд Кавальерс» упершыню ў гісторыі стаў чэмпіёнам НБА. У фінальнай сустрэчы яны перамаглі «Голдэн Стэйт Уорыарс» з лікам 93:89. «Кліўленд» — першая каманда ў гісторыі, якая выйграла фінальную серыю, саступаючы з лікам 1:3. На фота: слёзы радасці Леброна Джэймса — найлепшага баскетбаліста сучаснасці.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Крама. Каса.

Прадавец пытаецца:

— Вам пакет з ручкамі?

— З ножкамі, каб пабач бег!

* * *

На вяселлі сяброў пабегла лавіць букет, потым апамяталася і вярнулася.

Бачылі б вы вочы майго мужа!

* * *

— Даражэнькая, я хачу хоць крыху пажыць для сябе.

— Ну, пажыві, пакуль я фарбуюся...

* * *

— Чаму птушкі ляцяць на поўдзень?

— Бо цяжка ісці туды пешшу.

* * *

– Любы, можа, я застануся ў цябе начаваць?

– Позна, я ўжо ліфт выклікаў.

* * *

– Выпі з намі!..

– Дзякуй, мужыкі... не магу... Вера не дазваляе.

– А якая ў цябе вера?

– Эдуардаўна!

* * *

– Калі дзеці вырастуць і з'едуць, я буду прыходзіць да іх у госці, кідаць куртку ля ўваходу, перціся ў абутку на кухню і з'ядаць усё ў халадзільніку...

– Сапраўды! Накрышу ежы ў іх ложку, выцягну ўсё з шафы на падлогу і зладжу істэрыку на дзве гадзіны...

* * *

Дзядуля выйграў мільён у латарэю. Журналісты просяць яго падзяліцца адчуваннямі.

– Ну, што я магу сказаць... Я рады, што ў мяне цяпер з'явілася вялікая сям'я, якая мяне любіць.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Мінск.** Памерла ігумення жаноцкага манастыру матушка Карнілія, на каторую жаліліся ў святы Сінод пра манаскія грошы і што яна трымала манашак у холадзе і голадзе, а сама займала цэлы дом і жыла саўсім, як кажуць, «абрутна».

**«НН». №23. 1911.**

**«Бунтары» збунтавалі Віцебск.** Актывісты «Бунта» зладзілі першы рэйд у рэгіёны. Найбольшы розгалас зрабіла акцыя з вывешваннем бел-чырвона-белага сцяга на асвятляльнай вежы летняга амфітэатра, бачнай сотням жыхароў Віцебска. Замацавала на вежы сцяг і прывязалася да канструкцыі актывістка Крысціна Шацікава. Яе арыштоўвалі з ужыццём грубай фізічнай сілы амапаўцы.

**«НН». №23. 2006.**

Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

шэф-рэдактар Андрэй Дынько
сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 6001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 21.06.2016.
Замова №2333.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

9 771819 161008 16023